АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

ВЫПУСК 1

**А — Биенье**

МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1982

ББК 81.2Бел-4
Г46

Галоўны рэдактар А. І. Жураўскі

Рэдактар выпуска А. М. Булыка

Памочнік рэдактара Н. Ц. Кажура

Складальнікі:
Т. І. Блізнюк, А. М. Булыка, П. В. Вярхоў, Р. С. Гамзовіч,
А. П. Груцо, Н. Ц. Кажура, Л. М. Шыпалава

Рэцэнзенты:
Л. М. Шакун, доктар філалагічных навук,
І. Я. Яшкін, кандыдат філалагічных навук

**Гістарычны** слоўнік беларускай мовы. Вып. 1. А —
Г 46 Биенье / [Склад. Т. І. Блізнюк, А. М. Булыка, П. В. Вярхоў і інш.; Рэд. А. М. Булыка].— Мн.: Навука і тэхніка, 1982.— 296 с.
У пер.: 1 р. 60 к.

У слоўніку даецца тлумачэнне і граматычная характарыстыка беларускай літаратурна-пісьмовай лексікі XIV—XVIII стст.
Першы выпуск уключае лексіку на літары А—Б (биенье), звыш 1500 слоў.

Г $\frac{70105-026}{М316-82}$ 128—80 4602020000

ББК 81.2Бел-4
4Бел



# ПРЫНЦЫПЫ ПАДРЫХТОЎКІ ГІСТАРЫЧНАГА СЛОЎНІКА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

## АГУЛЬНАЯ ХАРАКТАРЫСТЫКА СЛОЎНІКА

Першая спроба лексікаграфічнай апрацоўкі слоўнікавага складу старажытнай беларускай пісьменнасці адносіцца да сярэдзіны XIX ст. і звязана з імем выдатнага беларускага філолага Івана Іванавіча Насовіча. У той час з'явілася найбольш значная пяцітомная публікацыя беларускіх гістарычных матэрыялаў пад назвай «Акты, относящиеся к истории Западной России» (СПб, 1846—1853). Каб палегчыць даследчыкам вывучэнне гэтых дакументаў, Расійская Акадэмія навук звярнулася да Насовіча з прапановай скласці слоўнік беларускіх слоў, якія сустракаюцца ў выдадзеных Актах. Насовіч, якому ў той час было ўжо 65 гадоў, ахвотна прыняў прапанову і за тры з палавінай гады падрыхтаваў слоўнік. Вызначаная акадэміяй камісія ў складзе акадэмікаў А. Х. Вастокава, І. І. Сразнеўскага і М. А. Каркунова дала высокую ацэнку слоўніку і рэкамендавала яго да друку. Аднак гэтай каштоўнай працы Насовіча не суджана было выйсці ў свет [1].

У пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя вядомы даследчык мовы старажытных помнікаў І. П. Навіцкі выдаў невялічкі «Справочный словарь юридических терминов древнего актового языка Юго-Западной России». У ім дадзена лексікаграфічная расшыфроўка каля 600 розных па паходжанню юрыдычных, ваенных і гаспадарча-бытавых тэрмінаў старой беларуска-ўкраінскай актавай пісьменнасці [2]. У гэты ж час выйшаў з друку значна большы па памеру «Словарь древнего актового языка Северо-Западного края и Царства польского» М. Гарбачэўскага (Вільна, 1874). Слоўнік змяшчае тлумачэнні пераважна лацінскіх і польскіх юрыдычных тэрмінаў, якія, як адзначае ўкладальнік, адсутнічаюць у звычайных лацінскіх і польскіх слоўніках. Акрамя таго, тут прыводзяцца некаторыя энцыклапедычныя звесткі аб урадавых

---

[1] Падрабязней аб гэтым слоўніку гл. у артыкуле: Жураўскі А. І., Крамко І. І. Першы слоўнік старажытнай беларускай мовы.— Весці Акадэміі навук Беларускай ССР. Серыя грамадскіх навук, 1963, № 4.

[2] Слоўнік І. П. Навіцкага быў апублікаван у часопісе «Университетские известия». Киев, 1871, № 8 і 1872, № 3.

установах, службовых асобах, метралогіі і рамёствах старажытнай Беларусі.

Неабходнасць падрыхтоўкі спецыяльнага слоўніка старабеларускай мовы разумеў ужо ў свой час Я. Ф. Карскі. Як адзначае праф. В. І. Баркоўскі, на 2-й старонцы вокладкі аўтарскага экземпляра 1-га выпуска другога тома «Беларусаў» Карскім быў запісан далейшы план работы над «Беларусамі»: «т. IV. Слоўнік беларускай мовы: 1. Сучаснай, 2. Старой заходнерускай мовы» [3]. Больш акрэслена свае меркаванні адносна слоўніка старабеларускай мовы Я. Ф. Карскі выклаў у спецыяльным праграмным артыкуле аб перспектывах беларускай філалогіі і затым ва ўводзінах да 3-га выпуска трэцяга тома «Беларусаў», якім завяршаецца фундаментальнае даследаванне заснавальніка беларускай філалогіі. На думку Карскага, крыніцамі гэтага слоўніка павінны быць важнейшыя рукапісныя і друкаваныя помнікі пачынаючы ад XIII і да канца XVIII ст. уключна. Вучоны лічыў неабходным выбраны з помнікаў матэрыял супаставіць з лексікай украінскіх помнікаў адпаведнага перыяду і з польскай мовай. У сувязі з вялікім аб'ёмам работы складанне гістарычнага слоўніка беларускай мовы Карскі адносіў да задач больш-менш аддаленага будучага і лічыў, што здавальняюча выканаць гэту задачу можа толькі якая-небудзь спецыяльная навуковая ўстанова [4].

У першыя гады Савецкай улады ўвага параўнальна невялікага калектыву беларускіх моваведаў была звернута на вырашэнне рада надзённых задач беларускага мовазнаўства і пытанне аб падрыхтоўцы слоўніка старабеларускай мовы не ставілася.

Аднак моўная практыка таго часу паказвала, што лексічны матэрыял пісьмовых помнікаў старажытнага перыяду ў пэўнай меры можа паслужыць крыніцай папаўнення слоўніка сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Асабліва заўзята за ідэю звароту да лексікі старабеларускай мовы выступіў пісьменнік У. Дубоўка, які лічыў магчымым браць са старажытнай мовы паасобныя словы, а таксама правяраць па іх жыццёвасць некаторых дыялектызмаў. Ён заклікаў пісьменнікаў і навуковую грамадскасць вывучаць і даследаваць старажытны слоўнік, каб больш свядома ставіцца да развіцця сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

[3] Борковский В. И. Исследования Е. Ф. Карского по белорусскому языку.— У кн.: Карский Е. Ф. Белорусы. Язык белорусского народа, вып. 1. М., 1955, с. 467.

[4] Карский Е. Что предстоит сделать по белорусскому языку и литературе?— Вестник Народного комиссариата просвещения, 1921, № 1, с. 28; яго ж: Белорусы, т. III. Очерк словесности белорусского племени. 3. Художественная литература на народном языке. Пг, 1922, с. VII.



У сувязі з гэтым укладанне гістарычнага слоўніка беларускай мовы ўжо ў сярэдзіне 20-х гадоў нашага стагоддзя разглядалася як важная праблема беларускага навуковага жыцця. У той жа час слоўніку прыдавалася вялікае практычнае значэнне — ён павінен быў служыць крыніцай узбагачэння лексікі сучаснай беларускай літаратурнай мовы.

Пытанне аб укладанні гістарычнага слоўніка беларускай мовы некалькі разоў абмяркоўвалася ў слоўнікавай камісіі Інстытута беларускай культуры, і на адным з пасяджэнняў аддзела мовы і літаратуры гэтага Інстытута было прынята рашэнне распачаць работу па падрыхтоўцы слоўніка з 1927 г. Складальнікі ў аснову сваёй работы паклалі прынцыпы і метады, прынятыя польскімі лексікографамі пры падрыхтоўцы старапольскага слоўніка. Першапачатковы спіс помнікаў для слоўніка быў невялікі, ён уключаў усяго толькі каля 20 назваў, але складальнікі разлічвалі паралельна з апрацоўкай вызначаных крыніц праводзіць работу па выяўленню новых твораў старажытнай пісьменнасці. Пры адборы слоўнікавага матэрыялу выкарыстоўвалі помнікі, якія ўзніклі на беларускай этнічнай тэрыторыі і ствараюць уражанне беларускіх па мове. Храналагічныя рамкі слоўніка абмяжоўваліся XIII—XVIII стст.[5]

Аднак работа па ўкладанню гістарычнага слоўніка беларускай мовы была спынена ў яе пачатковай стадыі і не дала ніякіх вынікаў.

Пытанне аб узнаўленні работы па падрыхтоўцы гістарычнага слоўніка беларускай мовы зноў было пастаўлена на парадак дня дваццаць гадоў назад. У план навукова-даследчай работы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР гэта тэма была ўключана ў 1960 г., і тады ж была распачата падрыхтоўка картатэкі. На працягу 1960—1961 гг. былі абмеркаваны агульныя прынцыпы ўкладання слоўніка, устаноўлены арыентыровачныя тэрміны работы па этапах, вызначаны храналагічныя рамкі слоўніка і яго крыніцы. У наступныя гады вялася падрыхтоўка картатэкі па інструкцыі, складзенай А. І. Жураўскім.

Падрыхтоўка картатэкі закончана была ў 1972 г. Усяго ў ёй налічваецца 1 мільён 60 тысяч картак. Паасобнымі супрацоўнікамі сектара падрыхтавана наступная колькасць картак (у тысячах): А. І. Жураўскі — 145, С. К. Турцэвіч — 135, І. І. Крамко — 126, П. В. Вярхоў — 123, У. В. Анічэнка— 113, А. К. Юрэвіч — 92, А. І. Яновіч — 71, І. В. Шадурскі — 63, А. М. Булыка—51, А. А. Напорка—36, Н. Ц. Кажура—28,

[5] Воўк-Левановіч О. В. Аб прынцыпах і метадах укладання гістарычнага слоўніка беларускай мовы.— Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. 9. Працы класа філалогіі, т. II. Мн., 1929, с. 1—19.

І. Д. Сухан — 19, А. П. Груцо — 6. У падрыхтоўцы картатэкі прымалі ўдзел таксама часовыя супрацоўнікі сектара Л. А. Вярэніч і Н. І. Кукіна.

Непасрэдная работа па падрыхтоўцы слоўніка распачалася ў 1973 г. і будзе працягвацца ў наступныя дзесяцігоддзі. Канчатковы тэрмін завяршэння работы над слоўнікам устанавіць пакуль што няма магчымасці. Няма магчымасці таксама дакладна вызначыць памер слоўніка па лістажу і па колькасці слоў, якія будуць адлюстраваны ў ім. Гістарычны слоўнік беларускай мовы мяркуецца выдаваць па аднаму выпуску ў год памерам у 20 аркушаў кожны.

Каб чытач мог атрымаць поўнае ўяўленне аб слоўніку, неабходна, гаворачы словамі вядомага іспанскага лексікографа Х. Касарэса, «глыбока ведаць і вывучаць прынцыпы, якімі кіраваліся яго складальнікі, матэрыялы, якія яны мелі, выкарыстаныя імі метады работы, цяжкасці, з якімі ім прыйшлося сутыкнуцца, а таксама шляхі іх пераадолення» [6].

## ХРАНАЛАГІЧНЫ АХОП СЛОЎНІКА

Вызначэнне храналагічнага ахопу гістарычнага слоўніка беларускай мовы звязана з агульнай праблемай перыядызацыі гісторыі беларускай мовы. Сучасныя даследчыкі ў гісторыі беларускай мовы выдзяляюць тры асноўныя перыяды: агульнаўсходнеславянскай (старажытнарускай) мовы, мовы беларускай народнасці і мовы беларускай нацыі. Разыходжанні ў існуючых схемах перыядызацыі датычаць галоўным чынам храналагічных рубяжоў паміж перыядамі.

Агульнаўсходнеславянская, або старажытнаруская, мова была адзінай для ўсіх усходніх славян, яна з'яўляецца асновай усходнеславянскіх моў — рускай, украінскай і беларускай, і кожная з іх у большай ці меншай меры ўнаследавала агульнаўсходнеславянскую лексічную спадчыну. Таму з тэарэтычнага пункту погляду ўключэнне ў гістарычны слоўнік беларускай мовы і агульнаўсходнеславянскага слоўнага матэрыялу, зафіксаванага ў помніках старажытнай эпохі, апраўдана. Гэты ж матэрыял павінен уключацца і ў аналагічныя слоўнікі старарускай і стараўкраінскай моў. Аднак пры такім падыходзе неабходна было б тройчы апрацоўваць адны і тыя ж старажытныя крыніцы і самая старажытная частка ў гэтых слоўніках была б тоеснай.

Для практычнага вырашэння гэтай праблемы членам-карэспандэнтам АН СССР Р. І. Аванесавым прапанавана спецыяльная схема слоўнікаў усходнеславянскіх моў старажытнага перыяду, якая прадугледжвае падрыхтоўку аднаго слоўніка старажытнарускай эпохі і паасобных слоўнікаў усіх усходнеславянскіх моў [7].

Гэта схема мае наступны выгляд:

Слоўнік старажытнарускай мовы

Слоўнік старарускай мовы | Слоўнік старабеларускай мовы | Слоўнік стараўкраінскай мовы

Праблема храналагічнага ахопу гістарычнага слоўніка беларускай мовы звязана з вызначэннем яго ніжэйшай і вышэйшай граніц, прычым больш складаным аказалася пытанне аб яго ніжэйшай граніцы. Паколькі гістарычны слоўнік беларускай мовы храналагічна з'яўляецца прамым працягам слоўніка старажытнарускай мовы, вырашаць гэта пытанне неабходна перш за ўсё з улікам асаблівасцей старажытнарускага слоўніка, які рыхтуецца ў Інстытуце рускай мовы Акадэміі навук СССР. Вышэйшай граніцай гэтага слоўніка з'яўляецца канец XIV ст. У старажытнарускі слоўнік уключаецца лексічны матэрыял пісьмовых помнікаў з усёй усходнеславянскай моўнай тэрыторыі ад пачатку ўзнікнення пісьменнасці да канца XIV ст., а ў паасобных выпадках выкарыстоўваюцца і спісы наступнага стагоддзя [8].

Прамежкавая граніца паміж познімі крыніцамі старажытнарускага слоўніка і раннімі крыніцамі гістарычнага слоўніка беларускай мовы павінна вызначацца канкрэтнымі помнікамі. Няма сумнення, што ў беларускіх граматах і дагаворах XIII і XIV стст. адлюстравана пэўная колькасць лексікі, якая ў далейшым стала спецыфічнай для беларускай мовы. У гэтых помніках нярэдкія выпадкі адлюстравання агульнаўсходнеславянскай лексікі ў беларускім фанетычным абліччы. Тым не менш немэтазгодна выкарыстоўваць для слоўніка старабеларускай мовы пісьмовыя крыніцы XIII і пачатку XIV ст., паколькі лексіка гэтых крыніц змяшчаецца ў слоўніку старажытнарускай мовы і, такім чынам, яна не акажацца па-за ўвагай даследчыкаў слоўнікавага складу ўсходнеславянскіх моў старажытнага перыяду.

Улічваючы ўсё гэта, ніжэйшую граніцу гістарычнага слоўніка беларускай мовы мэтазгодна вызначаць канцом XIV ст. Такая граніца якраз і адпавядае агульнапрынятай перыядызацыі гісторыі беларускай мовы. Згодна з сучасным уяўленнем аб паходжанні ўсходнеславянскіх моў, распад агульна-

[6] Касарес Х. Введение в современную лексикографию. М., 1958, с. 36.

[7] Словарь древнерусского языка XI—XIV вв. Введение, инструкция, список источников, пробные статьи. М., 1966, с. 12.

[8] Там жа, с. 11—15.

ўсходнеславянскай моўнай супольнасці на тры самастойныя мовы — рускую, украінскую і беларускую — адносіцца да эпохі XIV—XV стст.

Вышэйшай граніцай слоўніка старабеларускай мовы трэба лічыць XVIII ст. Гэты рубеж дакладна вызначаецца агульнай перыядызацыяй гісторыі беларускай мовы, ён аддзяляе таксама і старажытную беларускую літаратурна-пісьмовую мову ад новай.

Такім чынам, агульны храналагічны ахоп гістарычнага слоўніка беларускай мовы параўнальна вялікі — уключае чатыры стагоддзі. Фактычна ж слоўнік будзе будавацца на матэрыяле помнікаў больш вузкага храналагічнага адрэзка. Тлумачыцца гэта тым, што разнастайная ў жанравых адносінах пісьменнасць на беларускай мове адносіцца да значна пазнейшага часу, чым канец XIV ст. Большая частка вызначаных для слоўніка крыніц прыпадае на перыяд ад канца XV да сярэдзіны XVII ст. Помнікаў жа XVIII ст. вядома вельмі мала, практычна для слоўніка выкарыстаны толькі адзін твор XVIII ст.— «Собраніе припадковъ краткое и духовнымъ особомъ потребное» выдання 1722 г.

## КРЫНІЦЫ СЛОЎНІКА

Праблема крыніц гістарычнага слоўніка беларускай мовы з'яўляецца вельмі складанай і пры сучасным стане вывучанасці старабеларускай пісьменнасці наўрад ці можа быць вырашана канчаткова ва ўсіх аспектах. Своеасаблівасць гісторыі беларускай мовы заключаецца ў тым, што старажытная беларуская пісьменнасць развівалася ва ўмовах літаратурнага мнагамоўя. У пачатковы перыяд самастойнага існавання беларускай мовы творы дзелавога і часткова літаратурна-мастацкага зместу ствараліся на народнай мове, а для рэлігійных патрэб выкарыстоўвалася царкоўнаславянская мова, якая ў пэўнай меры абслугоўвала і свецкую літаратуру. У XVI ст. беларуская мова значна пашырыла свае грамадска-культурныя функцыі і пранікла нават у сферу царкоўна-рэлігійнай літаратуры. Аднак паступова беларуская пісьмовая мова ўступала свае пазіцыі польскай мове, якая к канцу старажытнага перыяду наогул выцесніла беларускую мову з важнейшых галін грамадскага і культурнага жыцця. Акрамя таго, на Беларусі пашырана была і сярэдневяковая латынь, якая спачатку ўжывалася ў дзелаводстве, а затым стала і мовай навукі. Нарэшце, пасля далучэння беларускіх зямель да Расіі ў канцы XVIII ст. тут пачала пашырацца і руская мова.

Моўныя асаблівасці польскіх і лацінскіх тэкстаў, створаных на тэрыторыі Беларусі, яшчэ зусім не вывучаліся. Аднак апрыёрна можна меркаваць, што гэтыя тэксты ў нейкай меры павінны адлюстроўваць і беларускую лексіку. У польскай навуковай літаратуры адзначаецца, напрыклад, што ў польскіх дзелавых дакументах з Вільні трапляецца многа беларускіх слоў [9]. Тым не менш у сучасны момант зусім няма ніякіх аб'ектыўных крытэрыяў для эксцэрпцыі беларускай лексікі з польскіх і лацінскіх помнікаў. Таму такія помнікі засталіся ўбаку пры вызначэнні крыніц гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Можна пры гэтым з вялікай ступенню верагоднасці сцвярджаць, што тыя беларускія словы, якія праніклі ў польскую і лацінскую пісьменнасць, абавязкова будуць адлюстраваны і беларускімі помнікамі і, такім чынам, не знікнуць для слоўніка.

Адмежаванне польскіх і лацінскіх помнікаў ад беларускіх не выклікае цяжкасцей дзякуючы таму, што польская і лацінская пісьмовыя мовы сваім графіка-арфаграфічным абліччам, граматычным ладам і слоўнікавым складам вельмі прыкметна адрозніваюцца ад беларускай.

Больш складанай з'яўляецца праблема размежавання беларускіх і царкоўнаславянскіх помнікаў. Традыцыйная царкоўнаславянская мова на Беларусі ў выніку пэўных палітычных і культурных умоў не заставалася нязменнай, на яе значна ўздзейнічала народная беларуская мова, што ў канчатковым выніку прывяло да ўзнікнення беларускай рэдакцыі царкоўнаславянскай мовы. Гэта рэдакцыя стваралася не толькі ў выніку стыхійнага пранікнення ў пісьменнасць фанетычных, граматычных і лексічных беларусізмаў, але таксама і шляхам свядомай апрацоўкі старажытнымі кніжнікамі пісьмовых тэкстаў і замены іх архаічных рыс адпаведнымі сродкамі з арсенала жывой беларускай мовы.

На свецкія творы на беларускай мове таксама ўплывала царкоўнаславянская мова. Ступень гэтага ўплыву была неаднолькавай не толькі ў розныя перыяды гісторыі беларускай мовы, але нават у адзін і той жа час у рамках аднаго і таго ж жанру. У выніку ў беларускай пісьменнасці вылучаецца пэўная частка помнікаў з моцнай царкоўнаславянскай афарбоўкай («царкоўнаславянізаваная беларуская мова») і ёсць царкоўнаславянскія помнікі з адчувальным беларускім элементам («беларусізаваная царкоўнаславянская мова»). Тэксты з царкоўнаславянізаванай беларускай мовай трэба аднесці да ліку крыніц слоўніка, тады як творы на беларусізаванай царкоўнаславянскай мове не павінны выкарыстоўвацца пры стварэнні старабеларускага слоўніка, яны могуць служыць крыніцамі слоўніка царкоўнаславянскай мовы ў яе пазнейшых рэдакцыях.

---

[9] Słownik staropolski, t. I, zeszyt 1. Warszawa, 1953, с. VII.

Такое размежаванне мае значэнне не толькі для слоўніка старабеларускай мовы, але і ў радзе іншых выпадкаў, напрыклад пры падрыхтоўцы гісторыі беларускай літаратурнай мовы.

Можна лічыць, што з ліку магчымых спосабаў размежавання беларускіх і царкоўнаславянскіх помнікаў найбольш апраўданым з'яўляецца статыстычны ўлік таго, якім матэрыялам — беларускім ці царкоўнаславянскім — запаўняюцца ў помніку тыя звенні фанетычнай сістэмы, граматычнага ладу і слоўнікавага складу, якія атрымлівалі розную рэалізацыю ў беларускай і царкоўнаславянскай мовах на працягу ўсяго перыяду іх развіцця.

Так, асабліва паказальнымі рысамі выступаюць беларускія поўнагалосныя і царкоўнаславянскія няпоўнагалосныя формы *(голова, голосъ, золото* і *глава, гласъ, злато)*, канчаткі прыметнікаў роднага склону *(великого, живого, нового* і *великаго, живаго, новаго)*, формы дзеясловаў 2-й асобы адзіночнага ліку *(берешъ, идешъ, несешъ* і *береши, идеши, несеши)*, фарманты *ч* або *щ* у дзеепрыметніках *(будучий, живучий, идучий* і *будущий, живущий, идущий)*, аддзеяслоўныя назоўнікі на *-ье* або *-ие (писанье, хоженье, хотенье* і *писание, хожение, хотение)*. Колькасны падлік такіх форм у кожным канкрэтным выпадку дазваляе атрымаць больш-менш аб'ектыўныя даныя для вырашэння пытання аб тым, з беларускім ці царкоўнаславянскім тэкстам прыходзіцца мець справу.

Колькасць такіх дыферэнцыяльных прыкмет можна значна павялічыць, і пры гэтым, безумоўна, больш надзейнымі будуць вывады. Так, у галіне лексікі могуць быць улічаны суадносіны слоў з пачатковым *е* і *о (езеро, есень* і *озеро, осень)*, спалучэнняў *ра, ла* і *ро, ло (равный, разумъ* і *ровный, розумъ)*. У граматычным ладзе маюць значэнне такія рысы, як канчатак творнага склону адзіночнага ліку назоўнікаў на *і (ночію, радостію* і *ночью, радостью)*, дыферэнцыраваныя па родах канчаткі прыметнікаў назоўнага склону множнага ліку для царкоўнаславянскіх тэкстаў і уніфікаваныя для беларускіх *(пресныи хлебы, добрая дела, великие тайны* і *пресные хлебы, добрые дела, великие тайны)*, формы дзеясловаў цяперашняга часу з цвёрдым або мяккім канчаткам *т* у 3-й асобе адзіночнага ліку *(беретъ, идетъ* і *береть, идеть)* і інш. Аднак прымяненне разгорнутай сеткі дыферэнцыяльных прыкмет звязана з неабходнасцю спецыяльнага папярэдняга вывучэння кожнага канкрэтнага помніка, што аказалася не пад сілу складальнікам слоўніка. Таму прыйшлося абмежавацца толькі вышэй адзначанымі пяццю асноўнымі паказчыкамі.

Прынцып размежавання беларускіх і царкоўнаславянскіх помнікаў па лексіка-граматычных паказчыках пры вызначэнні



крыніц гістарычнага слоўніка беларускай мовы з'яўляецца асноўным, але не адзіным, паколькі практычна прыходзіцца мець справу з такімі помнікамі, якія, нягледзячы на іх царкоўнаславянскую моўную аснову, усё ж павінны быць выкарыстаны ў якасці крыніц слоўніка. Тыповым узорам такіх помнікаў можна лічыць пражскія выданні біблейскіх кніг беларускага першадрукара Ф. Скарыны. У наш час усё яшчэ вядуцца спрэчкі аб характары мовы выданняў Скарыны. Аднак большая частка даследчыкаў лічыць, што ў аснове скарынінскіх выданняў ляжыць царкоўнаславянская мова з моцным элементам беларускай мовы і са слядамі літаратурнага ўплыву чэшскай і польскай моў [10]. Гэта меркаванне яскрава пацвярджаецца і спецыяльным аналізам кніг Скарыны па прапанаванай вышэй методыцы. Накладваючы гэтыя дыферэнцыяльныя прыкметы на мову выданняў Скарыны, можна наглядна пераканацца ў царкоўнаславянскай аснове яго выданняў.

Тым не менш, улічваючы арыгінальнасць скарынінскіх перакладаў і іх гісторыка-культурную значнасць у беларускай пісьменнасці, было б, відавочна, няправільным пакінуць убаку выданні Скарыны пры падрыхтоўцы гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Мова яго выданняў характарызуецца значнай колькасцю яркіх лексічных беларусізмаў, назоўнікаў — *баба, бокъ,ботьянъ, ветка, волотъ, гулня, детинство, дубецъ, згода, клопотъ, колачъ, конникъ, кропля, куделя, кутъ, плотъ, поклепъ, помста, походка, початокъ, подлога, промень, смутокъ, справа, ужитокъ* і інш., дзеясловаў — *боронити, виноватити, дозволити, досегати, засмутити, ховати, зрозумети, нахилити, пестовати, поткати, привитати, упевнити, ховати*, прыметнікаў — *горший, даремный, дробный, лагодный, лепший, околичный, певный, смутный, шаленый* і г. д.

Некаторыя з такіх слоў упершыню адзначаюцца толькі ў Скарыны, а паасобныя з іх наогул не фіксуюцца іншымі помнікамі старабеларускай пісьменнасці.

Пры выбары крыніц для слоўніка найбольш складанай аказалася праблема размежавання беларускіх і ўкраінскіх помнікаў. Сярод даследчыкаў пануючым з'яўляецца погляд, што ў старажытнасці беларусы і ўкраінцы карысталіся адной пісьмова-літаратурнай мовай. Гісторыкі старажытнай літаратуры таксама гавораць аб агульнасці літаратурнага працэсу ў беларусаў і ўкраінцаў старажытнай эпохі. У сувязі з гэтым некаторыя даследчыкі лічаць, што няма неабходнасці ставіць пытанне аб размежаванні беларускіх і ўкраінскіх помнікаў

[10] Агляд розных выказванняў аб мове Ф. Скарыны гл. у кн.: Ж у р а ў с к і А. І. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. 1. Мн., 1967, с. 118—120.

старажытнага перыяду, паколькі іх аб'ядноўвае адзінства мовы і ідэйна-тэматычная характарыстыка [11].

З тэарэтычнага пункту погляду, відавочна, падрыхтоўка агульнага беларуска-ўкраінскага слоўніка з прыцягненнем усіх пісьмовых крыніц, створаных у старажытнасці на Беларусі і Украіне, была б апраўданай. Думка аб мэтазгоднасці такога слоўніка ў свой час была выказана акад. Я. Ф. Карскім у рэцэнзіі на першы сшытак гістарычнага слоўніка ўкраінскай мовы [12], а ў пазнейшы час яна знайшла падтрымку ў прафесара Варшаўскага універсітэта П. Звалінскага [13]. Аднак стварэнне агульнага слоўніка з'явілася б падставай для заключэння, што самастойная гісторыя ўкраінскай і беларускай моў пачынаецца толькі з XVII ст. Таму мэтазгоднай уяўляецца падрыхтоўка паасобных украінскага і беларускага слоўнікаў старажытнай эпохі.

Але такі падыход патрабуе выпрацоўкі крытэрыяў для размежавання беларускіх і ўкраінскіх пісьмовых помнікаў.

З існуючай літаратуры па гэтаму пытанню відаць, што нацыянальная прыналежнасць помнікаў звычайна вызначаецца па аднаму з трох паказчыкаў: нацыянальнасць аўтара, месца ўзнікнення помніка і моўны аналіз, хоць паасобныя даследчыкі па-рознаму ацэньваюць значэнне гэтых паказчыкаў.

Трэба перш за ўсё заўважыць, што помнікі ў залежнасці ад задач і мэт даследавання можна разглядаць: а) як агульную культурную спадчыну дадзенага народа ў пэўны гістарычны перыяд; б) як паказчык укладу аднаго народа ў гісторыю культуры іншых народаў; в) як крыніцу вывучэння гістарычнай фанетыкі і граматыкі і г) як крыніцу вывучэння літаратурнай мовы. У кожным з гэтых выпадкаў кола пісьмовых помнікаў будзе розным па колькасці, зместу, мове.

Так, пры вывучэнні літаратуры старажытнага перыяду паказчык мовы не мае істотнага значэння. Ва ўмовах тагачаснай Беларусі літаратурныя, навуковыя і рэлігійныя творы нават самімі беларусамі маглі ствараццa на беларускай, царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах. Затое пры вывучэнні гістарычнай фанетыкі і граматыкі найбольш каштоўны матэрыял можна выбраць з помнікаў, напісаных на беларускай мове самімі беларусамі незалежна ад месца ўзнікнення помніка. Цэнтрабежны характар такога матэрыялу

[11] Гудзий Н. К. Традиции литературы Киевской Руси в старинных украинской и белорусской литературах.— Славянские литературы. Доклады советской делегации. М., 1963, с. 15.

[12] Карский Е. Ф. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962, с. 563.

[13] IV Международный съезд славистов. Материалы дискуссии, т. 2. М., 1962, с. 127.



дазваляе ў радзе выпадкаў выкарыстоўваць для гістарычнай граматыкі і іншамоўныя помнікі. Паказанні царкоўнаславянскіх помнікаў, перапісаных беларусамі, высока ацэньваў Я. Ф. Карскі. Ён сцвярджаў, што пры ўмелым падыходзе да справы і дастатковым знаёмстве з вывучаемым матэрыялам з рэлігійных твораў на царкоўнаславянскай мове можна таксама атрымаць многа цікавых фактаў, таму што перапісчыкі такіх кніг хоць і прытрымліваліся традыцыйнай арфаграфіі, але часта дапускалі памылкі ў карысць жывога вымаўлення [14]. Адлюстраванне беларускіх моўных рыс патэнцыяльна магчыма і ў помніках на польскай мове, створаных на тэрыторыі Беларусі ці за яе межамі беларускімі аўтарамі. З гэтага вынікае, што пры падборы крыніц па вывучэнню жывой мовы нацыянальнасць аўтара мае найбольшае значэнне.

Інакш вырашаецца праблема крыніц гісторыі беларускай літаратурнай мовы. Пры аналізе мовы помнікаў з гэтага пункту погляду даследчык павінен улічваць не толькі асаблівасці, якія маюць прамую адпаведнасць у народных гаворках, але і ўсе іншыя з'явы цэнтраімклівага характару — архаізмы, запазычанні з іншых моў і індывідуальныя наватварэнні аўтараў, калі толькі такія з'явы маюць значэнне асноўнай ці варыянтнай нормы або сігналізуюць аб зараджэнні яе. Не падлягае аспрэчванню меркаванне, што наяўнасць у помніку значнай колькасці фанетычных, граматычных і лексічных запазычанняў не можа служыць падставай для выключэння такога помніка з ліку крыніц для вывучэння беларускай літаратурнай мовы.

Напрыклад, польскі ўплыў на беларускую пісьменнасць яскрава відаць у «Дзённіку» навагрудскага падсудка Ф. Еўлашоўскага, напісаным у канцы XVI— пачатку XVII ст. Тут звычайнымі з'яўляюцца няпоўнагалосныя формы заходнеславянскай рэфлексацыі тыпу *дрокга, здрове, кроль, оброна.* Прыкметна вылучаюцца таксама словы з *я* на месцы этымалагічнага *ѣ* накшталт *вяра, лято, място, тяло,* ужываюцца і многія іншыя лексемы ў польскім фанетычным абліччы: *велкий, который, слонце, чловекъ*. Помнік адлюстроўвае таксама і шматлікія граматычныя паланізмы. Назоўнікі мужчынскага роду тут часта ўжываюцца з канчаткам *-емъ* у творным склоне (*гробемъ, декретемъ, домемъ, раземъ*), назоўнікі жаночага роду ў вінавальным склоне адзіночнага ліку часта маюць канчатак *-е*, які адпавядае польскаму *-ę* (*жоне=жону, избе=избу, ласке=ласку*). У прыметніку выдзяляюцца спарадычныя формы роднага склону на *-екго* (*велкекго, ласкавекго, лютекго*), формы жаночага роду на *-ей* (*велкей, но-*

[14] Карский Е. Ф. Белорусы. Введение в изучение языка и народной словесности. Вильно, 1904, с. 343.

*вей)*, а таксама формы назоўнага склону множнага ліку на *-е (домове права, старе слуги)*. Сістэма дзеяслова характарызуецца наяўнасцю своеасаблівых форм 3-й асобы адзіночнага ліку на *-а* або *-и (быва, одда, приходи, станови)* і шматлікіх утварэнняў прошлага часу на *-смы (змовилисмы, зналисмы, поховалисмы)*[15]. Хоць удзельная вага паланізмаў у гэтым помніку вельмі значная, аднак прыналежнасць яго да беларускай пісьменнасці ніколі нікім не аспрэчвалася. Даследчыку гісторыі беларускай літаратурнай мовы ёсць усе падставы так падыходзіць і да помнікаў, у якіх прыкметны ўплыў іншых моў, што ўзаемадзейнічалі з беларускай мовай.

На крыніцах беларускай літаратурнай мовы павінен асноўвацца і гістарычны слоўнік беларускай мовы. Слоўнік не ставіць сваёй мэтай і не можа на падставе пэўнага кола крыніц адлюстраваць лексічны састаў тагачаснай жывой беларускай мовы. Галоўная яго задача заключаецца ў тым, каб паказаць лексічнае багацце старажытнай беларускай пісьменнасці. «Для навукі,— гаворыць Х. Касарэс,— аднолькава цікава вывучэнне архаізмаў і неалагізмаў, літаратурных слоў і варварызмаў, прастамоўных утварэнняў і кніжных (або вучоных) слоў, агульнанародных і мясцовых элементаў мовы»[16]. Усе гэтыя разрады лексікі якраз і адлюстраваны ў пісьмовай спадчыне мінулага.

Такім чынам, гістарычны слоўнік беларускай мовы павінен адлюстраваць лексіку мастацкіх, навуковых, публіцыстычных, рэлігійных, юрыдычных і іншых жанраў старажытнай пісьменнасці. Ва ўмовах Беларусі XV—XVIII стст. такія творы маглі пісацца беларусамі, украінцамі, рускімі, палякамі, літоўцамі, яўрэямі — практычна ўсімі, хто актыўна ўключаўся ў культурнае і ідэалагічнае жыццё і пісаў тут свае творы з арыентацыяй на беларускага чытача. У творах гэтых аўтараў патэнцыяльна магчымы і практычна адзначаюцца асаблівасці адпаведна ўкраінскай, польскай, рускай, літоўскай і яўрэйскай моў. Аднак спарадычныя іншамоўныя элементы зусім не падмяняюць беларускай моўнай асновы помнікаў.

З другога боку, беларускім аўтарам па розных прычынах даводзілася жыць за межамі сваёй радзімы (Украіна, Расія, Польшча), прыстасоўваючыся ў сваёй творчай дзейнасці да мясцовай моўнай сітуацыі. У іх творах у большай ці меншай меры адлюстроўваюцца асаблівасці беларускай мовы, але

[15] Прыведзеныя прыклады ўзяты з копіі «Дзённіка», якая захоўваецца ў філіяле Бібліятэкі АН УССР у Львове. У выданні «Дзённіка» В. Антановічам (Киевская старина, 1886, № 1) многія паланізмы заменены беларускімі формамі па нормах старажытнай пісьменнасці.

[16] Касарес Х. Введение в современную лексикографию, с. 31.



гэта зусім не значыць, што такія помнікі павінны служыць крыніцамі гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Найбольш яркім прыкладам гэтага можа служыць дзейнасць Сімяона Полацкага, які да пераезду ў Маскву карыстаўся беларускай і польскай мовамі, а ў асноўны, маскоўскі перыяд пісаў свае творы на царкоўнаславянскай мове.

Хоць у гэтых яго творах і адзначаюцца беларусізмы (уласнабеларускія словы і запазычанні — *дедич* 'спадчыннік', *користь* 'здабыча', *лагодити, оборонца, певень, сличный* 'прыгожы', *умова, хоть* 'жаданне' і інш.), але гэтага недастаткова, каб лічыць яго творы беларускімі і выкарыстоўваць пры падрыхтоўцы слоўніка.

Пры такім падыходзе няма падстаў адносіць да беларускай літаратуры і адпаведна лічыць крыніцамі слоўніка творы беларусаў па паходжанню Сільвестра Косава, Андрэя Мужылоўскага, Іосіфа Трызны і іншых аўтараў, дзейнасць якіх звязана з Украінай.

Даследчыкі ўкраінскай пісьменнасці зусім заканамерна да ўкраінскай літаратуры адносяць творы прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей — палякаў Якуба Гаватовіча, Міхаіла Казачынскага, Варлаама Лашчэўскага, балгар Грыгорыя Цамблака і мітрапаліта Кіпрыяна, яўрэяў Якава Марковіча і Фёдара Жыдовіна, грэка мітрапаліта Фоція, прусака Інакенція Гізеля, армяніна Яна Юзефовіча, якія ў розныя часы жылі на Украіне і пісалі тут свае творы з разлікам на ўкраінскага чытача і на той літаратурна-пісьмовай мове, што была ва ўжытку на Украіне ў старажытны перыяд.

У святле гэтых прыкладаў становіцца відавочным, што нацыянальнасць аўтара не мае прынцыповага значэння пры адборы крыніц для гістарычнага слоўніка беларускай мовы. Асноўным тут з'яўляецца ўлік таго, дзе і ў якім асяроддзі стварaўся помнік, на задавальненне чыіх інтарэсаў ён арыентаваўся, дзе і кім ён чытаўся. Лагічнае развіццё гэтага тэзіса прыводзіць да прызнання **тэрытарыяльнага** крытэрыю як асноўнага пры размежаванні помнікаў.

Відавочна, па тэрытарыяльнай прыкмеце трэба вырашаць і пытанне аб нацыянальнай прыналежнасці спісаў помнікаў, якія ўзніклі на адной тэрыторыі, але захаваліся ў спісах з другой мясцовасці. Такія спісы прынцыпова нічым не адрозніваюцца ад арыгінальных твораў, бо яны вызначаюць кола тагачасных чытальніцкіх інтарэсаў, адлюстроўваюць асноўныя вехі і ўзровень развіцця культурна-літаратурных поглядаў і густаў. Важна ўлічваць таксама і тое, што пры перапісцы спісы, як правіла, не заставаліся нязменнымі, у іх амаль заўсёды пранікалі мясцовыя моўныя асаблівасці.

У гісторыі беларускай пісьменнасці тыповым прыкладам такіх помнікаў можна лічыць вядомую Чэццю 1489 г., якая,

як лічаць, была створана на Украіне, але захавалася ў беларускай копіі 1489 г., перапісана яна была ў Камянцы нейкім Бярозкам з Навагрудка і, як паказаў яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя М. Карпінскі, мае прыкметныя беларускія моўныя напластаванні [17].

Тое ж можна сказаць і пра Статут Казіміра Вялікага, перакладзены, як мяркуюць, з польска-лацінскіх крыніц у Чырвонай Русі каля 1423—1438 гг., але вядомы ў копіі канца XV ці пачатку XVI ст. Аналіз мовы гэтага помніка паказвае, што копія была перапісана на беларускай тэрыторыі. З гэтага пункту погляду беларускім трэба лічыць і куцеінскае выданне «Лексікона» П. Бярынды 1653 г.

З другога боку, агульнавядома, што біблейскія кнігі, выдадзеныя Ф. Скарынай, пазней неаднаразова перапісваліся на Украіне, прычым у сувязі з тым, што на Украіне традыцыі царкоўнаславянскай мовы ашерагаліся больш старанна, чым на Беларусі, пры перапісцы яны падвяргаліся моўным зменам у бок большай царкоўнаславянізацыі. Такія спісы скарынінскіх выданняў трэба лічыць помнікамі ўкраінскай пісьменнасці.

Наогул месца ўзнікшых на беларускай тэрыторыі спісаў у гісторыі беларускай пісьменнасці прынцыпова нічым не адрозніваецца ад месца ў пісьмовай спадчыне паасобных славянскіх народаў старaславянскіх помнікаў, перакладзеных спачатку з грэчаскай на старабалгарскую мову, а затым перапісаных у розных частках славянскага свету з напластаваннем мясцовых моўных асаблівасцей. Евангеллі, псалтыры і апосталы, перапісаныя на рускай, беларускай або ўкраінскай глебе ў XV—XVII стст., ужо не з'яўляюцца помнікамі старaславянскай пісьменнасці, а належаць адпаведна рускім, беларусам і ўкраінцам.

Неабходна заўважыць, што прызнанне тэрытарыяльнага крытэрыю як асноўнага не вызваляе складальнікаў гістарычнага слоўніка беларускай мовы ад усіх цяжкасцей, з якімі прыходзіцца сутыкацца пры вызначэнні крыніц слоўніка. Далёка не ўсе помнікі маюць дакладныя звесткі аб месцы ўзнікнення, і таму вырашаць гэта пытанне часам прыходзіцца з улікам разнастайных ускосных даных. Так, у Цэнтральнай бібліятэцы АН ЛітССР захоўваецца значная колькасць рукапісных помнікаў XVI—XVII стст., але няма прамых звестак пра месца іх узнікнення. Пры вызначэнні іх паходжання мае значэнне ўказанне Ф. Дабранскага, што помнікі, якія паступілі ў Віленскую публічную бібліятэку ў сярэдзіне мінулага стагоддзя, былі сабраны ў беларускіх манастырах і ствараліся там [18].

Тэрытарыяльным крытэрыем не ахопліваюцца шматлікія дзелавыя матэрыялы, створаныя ў старажытнасці на літоўскай этнічнай тэрыторыі. Гэтыя дакументы характарызуюцца значнай колькасцю лексічных і фанетычных літуанізмаў, тым не менш ёсць усе падставы залічваць іх да беларускай пісьменнасці, бо генетычна яны найбольш блізкія да яе.

Па лексічнай характарыстыцы, як і наогул па моўных паказчыках, вядомыя ў наш час помнікі старабеларускай пісьменнасці ўмоўна можна падзяліць на тры групы: юрыдычна-дзелавыя, свецка-мастацкія і рэлігійныя.

У колькасных адносінах дзелавыя помнікі займаюць першае месца. Дастаткова адзначыць, што толькі выдадзены ў XIX—XX стст. беларускі актавы матэрыял перавышае сотню тамоў і гэта вельмі нязначная частка той вялікай рукапіснай спадчыны, якая была створана ў вялікакняжацкай канцылярыі, у гарадскіх, земскіх і замкавых судах, у магістратах і магдэбургіях.

Аднак лексіка дзелавых помнікаў не вылучаецца багаццем і разнастайнасцю. Таму да апрацоўкі актавага матэрыялу мэтазгодна падыходзіць выбарачна — абмежавацца тымі актавымі кнігамі, якія адлюстроўваюць мову дзелавой пісьменнасці розных часоў і розных тэрыторый. Пры такім падыходзе не выключаецца магчымасць, што пэўная частка зафіксаванай у дзелавых помніках лексікі будзе прапушчанай, але ступень пропускаў, відавочна, залежыць ад таго, наскольні ўдала выбраны для апрацоўкі ўзоры.

Актавай мове процістаўляецца мова рэлігійных твораў. У помніках гэтага жанру побач з бытавымі, канкрэтнымі словамі шырока адлюстроўваецца абстрактная, кніжная лексіка, якая або зусім адсутнічае ў актавых матэрыялах, або адлюстравана там вельмі абмежавана. Агульная колькасць рэлігійных твораў на беларускай мове параўнальна невялікая. Таму складальнікі імкнуліся па магчымасці выкарыстаць увесь гэты матэрыял.

Лексічна багатыя і разнастайныя свецка-мастацкія творы — летапісы, хронікі і хранографы, воінскія і рыцарскія аповесці і раманы, мемуарныя і публіцыстычныя творы і інш. Колькасць іх таксама адносна невялікая, і таму яны поўнасцю апрацоўваліся для слоўніка.

Сярод рэлігійных і свецка-мастацкіх помнікаў ёсць як арыгінальныя, так і перакладныя, прычым больш перакладных. Для слоўніка апрацоўваліся і ўсе перакладныя помнікі.

[17] Карпинский М. Западнорусская четья 1489 г. с приложением Жития Бориса и Глеба.— Русский филологический вестник, т. 21, 1889, с. 59—86.

[18] Добрянский Ф. Описание рукописей Виленской публичной библиотеки, церковнославянских и русских. Вильно, 1882, с. XXIII—XXIV.



2. Зак. 739

Пры апрацоўцы помнікаў з лексікаграфічнымі мэтамі звычайна прымяняюцца тры віды выпіскі: суцэльная, поўная і выбарачная. Пры суцэльнай выпісцы на картцы выпісваецца кожнае слова помніка незалежна ад таго, колькі разоў ужыта гэта слова ў помніку. Гэты від выпіскі прымяняецца галоўным чынам пры падрыхтоўцы частотных слоўнікаў. Аднак у гістарычным слоўніку беларускай мовы частотная характарыстыка слоў не прадугледжваецца, таму пры падрыхтоўцы картатэкі суцэльная выпіска не прымянялася.

Асноўнай пры падрыхтоўцы картатэкі гістарычнага слоўніка беларускай мовы была поўная выпіска — кожнае слова помніка выпісвалася на асобную картку ў тых выпадках, калі дадатковая выпіска гэтага слова не выклікалася іншымі меркаваннямі. На асобныя карткі выпісвалася, акрамя таго, кожнае новае сэнсавае адценне слова, а таксама ўсе новыя арфаграфічныя або словаўтваральныя яго варыянты.

На заключным этапе падрыхтоўкі картатэкі прымянялася выбарачная выпіска, пры якой на карткі заносіліся пераважна новыя словы, не адзначаныя ў раней апрацаваных помніках, а таксама ўсе новыя дадатковыя значэнні раней зафіксаваных слоў і новыя арфаграфічныя і марфалагічныя варыянты. Выбарачнай выпіскай апрацоўваліся галоўным чынам пазнейшыя дзелавыя помнікі, якія змяшчаюць параўнальна невялікую колькасць новых лексічных адзінак.

Складальнікі імкнуліся выкарыстоўваць арыгіналы помнікаў (фотакопіі і мікрафільмы) і пазбягаць пазнейшых выданняў, ажыццёўленых у XIX — пачатку XX ст. У гэтых пазнейшых выданнях, разлічаных галоўным чынам на гісторыкаў і прававедаў, праведзены шматлікія замены і спрашчэнні, у сувязі з чым нярэдка была зацемнена не толькі арфаграфічная, але граматычная і словаўтваральная структура старажытных слоў. Параўнанне пазнейшых выданняў з арыгіналамі паказвае, што выдаўцы з мэтай аблягчэння сваёй работы ўносілі вынасныя літары ў радок, што выклікала значныя змены ў абліччы старажытнага тэксту. Напрыклад, аддзеяслоўныя назоўнікі з вынасным *н* тыпу *будова*$^{н}$*е*, *хова*$^{н}$*е* перадаваліся або як *будованье, ахованье*, або як *будоване, ховане*; інфінітывы з вынасным *т* накшталт *говори*$^{т}$, *носи*$^{т}$, *ходи*$^{т}$ перадаваліся па-рознаму: *говорити, носити, ходити; говорить, носить, ходить* і *говорит, носит, ходит*. Тое ж можна сказаць і аб дзеясловах 3-й асобы адзіночнага ліку тыпу *бере*$^{т}$, *иде*$^{т}$, якія ў выданнях перадаюцца як *береть, идеть* або *беретъ, идетъ*, або *берет, идет*. Вельмі часта праведзена няправільная разбіўка старажытнага суцэльнага тэксту на паасобныя словы, трапляюцца формы тыпу *з особна, колько кроть, на борздей, на вылетъ, на заютръ, на первей, по готову, по рану, у потемку* і інш. Падобныя спалучэнні з



пункту погляду сучаснага ўяўлен...
кай мовы разглядаюцца як цэласныя лексічныя адзінкі.

Практыка работы над помнікамі паказала, што ў мінулым мелі месца і выпадкі свядомай апрацоўкі старажытных тэкстаў з мэтай падгонкі іх пад агульныя нормы старабеларускай пісьменнасці. Найбольш выразна гэта тэндэнцыя праявілася ў выданні В. Б. Антановічам «Дзённіка» Ф. Еўлашоўскага, дзе шматлікія фанетычныя, граматычныя і лексічныя паланізмы заменены адпаведнымі сродкамі старабеларускай пісьмовай мовы [19].

## СКЛАД РЭЕСТРА

### *Анамастычны матэрыял*

Дасканалым можна лічыць такі гістарычны слоўнік, які змяшчае ўсю зафіксаваную ў пісьмовых помніках лексіку — як агульную, так і ўласную. Уключэнне ў слоўнік агульнай лексікі без якіх-небудзь абмежаванняў ужо даўно замацавана лексікаграфічнай практыкай і не выклікае ніякіх пярэчанняў. У адпаведнасці з гэтым у гістарычным слоўніку беларускай мовы будуць адлюстраваны ўсе выяўленыя ў пісьмовых крыніцах знамянальныя і службовыя часціны мовы.

Уключэнне ў падобны слоўнік анамастычнага (тапанімічнага і антрапанімічнага) матэрыялу лічыцца пажаданым і мэтазгодным, паколькі агульная і ўласная лексіка цесна звязана паміж сабой у генетычных, граматычных і словаўтваральных адносінах. Уласныя імёны і геаграфічныя назвы часта захоўваюць сляды выйшаўшай з ужытку апелятыўнай лексікі. Анамастычная лексіка цікавая для гісторыкаў і спецыялістаў па прыродазнаўчых навуках. Яна мае пэўнае значэнне для вывучэння праславянскага слоўнікавага складу.

Аднак у лексікаграфічнай практыцы назіраюцца розныя адносіны да анамастычнага матэрыялу ў залежнасці ад задач, якія ставяць перад сабой складальнікі слоўнікаў, і магчымасцей іх рэалізацыі. Пры гэтым прымаюцца пад увагу неабходнасць прынцыпова рознай лексікаграфічнай апрацоўкі апелятыўнай і анамастычнай лексікі, ступень вывучанасці слоўнікавага складу старажытнай пары і рад іншых меркаванняў. Анамастычная лексіка не прыводзіцца, напрыклад, у «Старапольскім слоўніку» па той прычыне, што гэты матэрыял сістэматычна не збіраўся папярэднімі складальнікамі слоўніка. Абыходзіцца гэты разрад лексікі і ў «Старажытнарускім слоўніку» з-за жадання складальнікаў як мага хутчэй выпусціць слоўнік і не павялічваць занадта яго памер.

[19] Гл. аб гэтым: Жураўскі А. І. Заўвагі аб моўных асаблівасцях «Дзённіка» Ф. Еўлашоўскага.— Slavia orientalis, 1968, № 3, с. 469—471.

З другога боку, складальнікі «Слоўніка стараўкраінскай мовы XIV—XV стст.» у рэестр слоўніка ўключылі ўсе ўласныя асабовыя і геаграфічныя назвы, якія выяўлены ў выкарыстаных помніках.

У гістарычным слоўніку беларускай мовы анамастычны матэрыял не ўключаны па некалькіх прычынах. Анамастычная лексіка, як ужо адзначалася, патрабуе некалькі іншага падыходу пры апрацоўцы. Прымяняльна да старабеларускай пісьменнасці гэта задача ўскладняецца яшчэ і тым, што значную колькасць крыніц слоўніка складаюць перакладныя творы — хронікі, хранографы і канфесіянальныя тэксты, якія насычаны вялікай колькасцю чужаземных імён і геаграфічных назваў. Іншамоўны анамастычны матэрыял не мае істотнага значэння для гісторыі слоўнікавага саставу беларускай мовы. Між тым аддзяліць наяўныя ў помніках генетычна беларускія тапонімы і антрапонімы ад іншамоўных практычна немагчыма. У сувязі з гэтым падрыхтоўку старажытнага беларускага анамастыкона трэба лічыць асобнай задачай беларускай гістарычнай лексікалогіі.

Адпаведна не будуць выдзяляцца ў самастойныя слоўнікавыя артыкулы і вытворныя ад тапонімаў і антрапонімаў прыметнікі тыпу *виленский, витебский, менский, полоцкий, александровъ, михайловъ*. Аднак такія прыметнікі, калі яны ўжываюцца ў тэкстах у якасці пастаянных дыферэнцыятараў больш агульных паняццяў у выразах тыпу *валентынова хороба, виленская бочка, коленская кошуля, лунское сукно, майтборское право, солгацкий коверецъ*, увойдуць у спецыяльную частку артыкула на асноўнае слова такіх словазлучэнняў: **хороба** [...] **валентынова хороба** [...]; **бочка** [...] **виленская бочка** [...]; **коверецъ** [...] **солгацкий коверецъ** [...].

Асобую праблему складаюць этнанімічныя назвы і вытворныя ад іх словы, якія па сваёй семантычнай характарыстыцы займаюць прамежкавае становішча паміж апелятыўнай і агульнай лексікай. Назвы жыхароў па мясцовасцях ці краінах тыпу *асирийчикъ, египтянинъ, кинейчикъ, македонинъ, палестинчикъ, поморанинъ* або назвы жыхароў па гарадах накшталт *атенчикъ, киянинъ, новогорожанинъ, оршанинъ* пададзены ў слоўніку, як і вытворныя ад этнонімаў прыметнікі тыпу *албанский, дунский, египетский, индейский, перский, турецкий, угорский*.

У слоўнік уключаны таксама ўтвораныя ад уласных назоўнікаў словы са значэннем паслядоўніка вучэння, навуковых і рэлігійных кірункаў і сект накшталт *адамитъ, амазонитъ, аполинаристъ, доминиканинъ, калвинистъ, кармелитъ, монтанистъ*. Тое ж трэба сказаць і аб вытворных ад іх словах тыпу *ариянинъ — ариянский, ариянство*.





У слоўніку змяшчаюцца ўсе запазычаныя словы, якія праніклі ў беларускую мову рознымі шляхамі, выконвалі тут нароўні з уласнабеларускай лексікай пэўную камунікатыўную і сігніфікатыўную функцыю і цалкам асіміляваліся ў марфалагічных і фанетычных адносінах. Уключаюцца таксама і шматлікія экзатызмы — словы, якія не належаць да лексічных фактаў беларускай мовы і ўжыванне якіх абумоўлена тэматыкай, неабходнасцю апісання звычаяў і побыту таго ці іншага народа і якія практычна не паддаюцца перакладу ў сувязі з адсутнасцю ў старабеларускай мове спецыяльных слоў для абазначэння адпаведных прадметаў, паняццяў ці з'яў. У старабеларускай мове выразна вызначаецца некалькі разрадаў экзатызмаў:

а) назвы людзей па занятку, прафесіі, светапогляду, сацыяльнаму становішчу ў розных народаў: *аркгонаутъ, баша, буркграбя, деспотъ, кгауръ, консулъ, курферстъ, мурза, рабинъ, чаушъ;*

б) назвы раслін розных геаграфічных рэгіёнаў: *алое, кедръ, кипарисъ, кордымония, лабруска, мандрагоръ, фикга;*

в) назвы жывёл і іншых жывых істот: *акрида, аспидъ, ипотамъ, кгрифъ, китъ, коркодилъ, кошкоданъ, левартъ;*

г) назвы прадметаў, збудаванняў, матэрыялаў і ўстаноў: *ареопагъ, виссонъ, ефудъ, иподромъ, исопъ, катарга;*

д) назвы мер і грашовых адзінак: *гинъ, гоморъ, динаръ, драхма, ефа, кодрантъ, литра, маца, сиклъ, статиръ*.

У слоўнік не ўключаюцца разнастайныя іншамоўныя ўкрапванні, якія яшчэ не былі асвоены беларускай мовай і нават не маюць беларускіх марфалагічных адзнак, але часта трапляюцца ў перакладных творах і захаваны там для пэўных стылістычных мэт: *адисъ, алхамъ, антраксъ, деликтумъ, квинтиль, кглория, кирие елейсонъ, концилиорумъ, концинаторъ, лексъ, лехамъ, лабиртасъ, литусъ, люпусъ, макгусъ, пеккатумъ, принцепсъ, талифакумъ, торнафъ* і інш.

Наносны характар і непрыналежнасць такога разраду іншамоўных украпванняў да беларускай мовы пацвярджаецца і самім кантэкстам помнікаў, дзе такія словы звычайна суправаджаюцца перакладам на беларускую мову або апісальнымі тлумачэннямі: адъ: темность, недовѣдомое мѣсце, преисподнѧѧ, по грецк8 адис и аідисъ (Зіз., 94); соут оу них домы ωпришне, их же тамо алхам зов8тъ (Валх., 43 б); латинское деликтум по нашом8 выст8покъ (Выкл., 50); з каждог ωдног слова семдесѧт слов повстало, то ест лехам хлѣбъ по жидовск8, кожды[s] иначе[s] своим ѧзыком мѧновал сирѧне лѧгма грекове артон, нѣмцы брот, словѧне хлѣбъ (Бельск., 11 б).

Праблема амонімаў не з'яўляецца спецыфічнай для гістарычнага слоўніка беларускай мовы, з ёй прыходзіцца сутыкацца заўсёды ў лексікаграфічнай практыцы. Складанасць яе заключаецца ў тым, што практычна цяжка правесці мяжу паміж паасобнымі значэннямі полісемантычнага слова і самастойнымі лексічнымі адзінкамі, якія генетычна ўзыходзяць да аднаго і таго ж слова, але ў працэсе развіцця слоўнікавага складу настолькі разышліся ў сваіх значэннях, што ўжо выступаюць як самастойныя словы.

Несумненнымі амонімамі трэба лічыць словы, якія маюць рознае паходжанне і толькі выпадкова знешне супадаюць паміж сабой. У большасці выпадкаў такія пары ўтвараюць сваё, беларускае слова і запазычанне або два запазычанні з розных крыніц: *бракъ* 'вяселле' — *бракъ* 'недахоп', *воръ* 'зладзей' — *воръ* 'мяшок', *градъ* 'горад' — *градъ* 'град', *другъ* 'друк' — *другъ* 'кій', *зрети* 'глядзець' — *зрети* 'спець', *крукъ* 'крук' — *крукъ* 'крумкач', *портъ* 'вопратка' — *портъ* 'порт', *судъ* 'суд' — *судъ* 'судна' — *судъ* 'пасудзіна', *статокъ* 'статак'— *статокъ* 'карабель', *сума* 'сума'— *сума* 'сумка', *трудъ* 'праца'— *трудъ* 'праказа'.

Для старабеларускай мовы, па сутнасці, амонімамі з'яўляюцца і такія словы, якія генетычна ўзыходзяць да аднаго і таго ж этымона, але з самага пачатку самастойнай гісторыі беларускай мовы выступаюць з рознымі значэннямі: *дело* 'справа' — *дело* 'гармата', *коло* 'кола' —*коло* 'каля', *лютый* 'жорсткі'— *лютый* 'люты' (назва месяца), *масть* 'колер жывёлы' — *масть* 'рэчыва для змазкі', *погребъ* 'пахаванне' — *погребъ* 'склеп', *польский* 'польскі'— *польский* 'палявы', *порохъ* 'порах'— *порохъ* 'пыл'.

Увогуле пытанне аб амонімах вырашаецца ў кожным канкрэтным выпадку з улікам рэальнай гісторыі слова і ступені блізкасці паміж яго паасобнымі значэннямі. Практычна ў якасці амонімаў падаюцца пераважна словы, розныя па сваім паходжанню.

## *Словы з адмоўем* не

Самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі афармляюцца і словы, якія ў сваім складзе маюць у ролі прыстаўкі адмоўную часціцу *не*. У пісьмовых помніках часціца *не* звычайна пісалася разам з наступным словам незалежна ад таго, якую сэнсавую нагрузку яна выконвала. Таму арфаграфічныя прыёмы старажытных тэкстаў не могуць служыць крытэрыем для вырашэння пытання аб адносінах гэтай часціцы да структуры наступнага слова. Выступленне адмоўя *не* ў ролі адмоўнай часціцы ці адмоўнага прэфікса вырашаецца ў залежнасці ад семантычнай ролі яго ў агульным змесце выказвання. Калі слова ў спалучэнні з адмоўем *не* выражае адмоўнае паняцце, тады часціца разглядаецца як структурны элемент адпаведнага слова і разам з гэтым словам афармляецца адпаведным слоўнікавым артыкулам. З гэтага пункту погляду ў старабеларускай мове выдзяляецца некалькі разрадаў слоў:



1. Словы, якія без адмоўя *не* ў вывучаных крыніцах наогул не адзначаюцца: назоўнікі *небачникъ, небожчикъ, небогул не* ... *недоракъ, невдячникъ, неверникъ, неверство, неволництво, недолужность, незбожность, немовятко, ненавистникъ*, прыметнікі *небавный, неволничий, недолужный, незбедный, незбожный, ненавистный, необлудный*, прыслоўі *невымовне, незбожне, незмерне, неотволочне, неотменне*, дзеясловы *недоставати, недуговати, ненавидети*.

2. Словы, якія ўжываюцца самастойна і без адмоўя *не*, але ў спалучэнні з адмоўем утвараюць адзінае адмоўнае паняцце: назоўнікі *небачность, небытность, неважность, невдячность, неведомость, неверность, неволя, негодность, недосконалость, незгода, немилость, непевность, непокой, неправда, неприятель, нечистость*, прыметнікі *невдячный, неверный, невинный, неволный, негодный, недавный, недорослый, недосконалый, незвычайный, незначный, незносный, немоцный, непевный, непорочный, нещасливый*, прыслоўі *небеспечне, невинне, невонтпливе, недавно, недалеко, недолго, незначне, немало, немного, неподобне, неслушне*.

Калі ў кантэксце адмоўная часціца *не* ўжываецца для адмаўлення паняцця, то часціца і наступнае слова разглядаюцца як самастойныя лексічныя адзінкі і змяшчаюцца паасобку ў адпаведных слоўнікавых артыкулах.

## *Графічныя, арфаграфічныя і фанетычныя варыянты*

Гістарычны слоўнік беларускай мовы адлюстроўвае лексіку пісьмовых помнікаў розных храналагічных эпох і розных дыялектных масіваў, у сувязі з чым зафіксаваныя ў помніках ідэнтычныя ў семантычных адносінах лексічныя сродкі характарызуюцца неаднолькавай графіка-арфаграфічнай і фанетычнай структурай. Графічнае і фанетыка-арфаграфічнае аблічча некаторых разрадаў лексікі залежыць таксама ад характару ўзаемадзеяння ў розных жанрах пісьменнасці мясцовай народнай стыхіі і традыцыйных кніжных, а таксама іншамоўных плыней. У выніку ўсяго гэтага адны і тыя ж лексічныя сродкі ў картатэцы слоўніка адзначаюцца ў розных варыянтах: *тысяча — тысяща — тысеча — тисяча — тисеща —*

*тисеча; тестаментъ — тэстаментъ — тастаментъ — тастоментъ — тэстамэнтъ — тестоментъ — тостоментъ — тастамэнтъ — достоментъ — дастоментъ; вонтпити — вунтпити — вутпити — утпити; зрайца — здрайца — здрадца — зрадца; мембрамъ — мембранъ — мамрамъ — мамранъ; мосязъ — мосендзъ — мосіондзъ — мосяжъ; шафиръ — шапфиръ — самфиръ — сафиръ; епанча — епонча — опанча — опонча — апанча; блакитный — бланкитный — блекитный — бленкитный — блокитный; брунатный — бронатный — борнатный — бурнатный.*

Пры выпрацоўцы рэестра ўвесь наяўны ў картатэцы матэрыял ацэньваўся з пункту погляду таго, ці варыянты ўяўляюць сабой разнавіднасці адной і той жа слоўнікавай адзінкі, ці з'яўляюцца рознымі і адпаведна павінны афармляцца самастойнымі слоўнікавымі артыкуламі.

Графічнымі варыянтамі лічацца напісанні аднаго і таго ж слова з выкарыстаннем розных літар, што, аднак, не ўплывае на вымаўленне слова пры чытанні: *пѫть — пꙋть — поуть — путь; ꙋрадъ — оурадъ — урадъ; одинъ — ѡдинъ; фала — Ѳала; землѧ — ѕемлꙗ, ѱалтыръ — псалтыръ.*

Графічныя варыянты не прымаюцца пад увагу пры выдзяленні і афармленні рэестравых слоў, паколькі апошнія ў слоўніку падаюцца ва уніфікаванай графічнай абалонцы. Аднак графічнае аблічча такіх слоў захоўваецца ў ілюстрацыйнай частцы слоўнікавых артыкулаў, дзе перадаюцца графічныя асаблівасці арыгіналаў.

Арфаграфічнымі варыянтамі ўмоўна прынята лічыць напісанні з выкарыстаннем розных літар, што выклікае і рознае вымаўленне слова пры чытанні. Тут назіраецца некалькі асноўных тыпаў у залежнасці ад прычын арфаграфічных разыходжанняў:

1. Традыцыйна-этымалагічнае напісанне і напісанне з адлюстраваннем уласцівых беларускай мове фанетычных з'яў:

а) прамое або ўскоснае адлюстраванне акання: *акиянъ — окиянъ, аксамитъ — оксамитъ, алтаръ — олтаръ, апелевати — опелевати, атласъ — отласъ, баламутня — боламутня, калита — колита, капитула — копитула, манастыръ — монастыръ, мандатъ — мондатъ, манисто — монисто, палацъ — полацъ, сагайдакъ — согойдакъ, сатана — сотана — сотона* і інш.

Сюды ж адносяцца і шматлікія выпадкі ўскоснага адлюстравання якання. Яно выражаецца ў тым, што як у пераднаціскных, так і ў паслянаціскных складах на месцы этымалагічнага ѧ пішацца *е*: *княгиня — кнегиня, лякатися — лекатися, плясати — плесати, пята — пета, святый — светый, тяжаръ — тежаръ, языкъ — езыкъ, ярмо — ермо; девять — деветь, заяцъ — заецъ, месяцъ — месёцъ, память — паметь, поясъ — поесъ, челядь — челедь* і інш.;



б) этымалагічнае напісанне і адлюстраванне зацвярдзення шыпячых і *р*: *вчера — вчора, жити — жыти, мучити — мучыти, причина — прычына, чинити — чынити; кривда — крывда, крижъ — крыжъ, крикъ — крыкъ, пригода — прыгода, прягнути — прагнути, прямый — прамый, урядъ — урадъ* і г. д.;

в) этымалагічнае напісанне і адлюстраванне змянення *в — ў* і *у — ў*: *вдова — удова, вдячне — удячне, взяти — узяти, внукъ — унукъ, всякий — усякий, научати — навчати, утекати — втекати, уланъ — вланъ, урода — врода, уставичный — вставичный, учитель — вчитель* і інш.;

г) этымалагічнае напісанне і адлюстраванне пратэтычнага *в*: *ось — вось, киотъ — кивотъ, наука — навука.* Сюды ж прымыкаюць і выпадкі гіпернармалізаваных напісанняў тыпу *вутпити — утпити, воробей — оробей, возле — озле;*

д) этымалагічнае напісанне і адлюстраванне прыстаўных галосных: *второкъ — овторокъ, ржаный — оржаный, згребный — изгребный, лгати — илгати, лняный — илняный, мша — имша;*

е) этымалагічнае напісанне і адлюстраванне змянення *л — ў*: *волна — вовна, долго — довго, колнеръ — ковнеръ, сажалка — сажавка;*

ж) этымалагічнае напісанне і з'яўленне новых беглых галосных: *вердункъ — вердунокъ, ветръ — ветеръ, министръ — министеръ, осмъ — осемъ, фолваркъ — фолварокъ, шранкъ — шранокъ;*

з) захаванне этымалагічнага *ѣ* і перадача яго праз *е*: *дѣло — дело, лѣто — лето, мѣсто — место, мѣти — мети, обѣдъ — обедъ, сѣно — сено;*

і) адлюстраванне выбухнога або фрыкатыўнага *г*: *кганокъ — ганокъ, кгмахъ — гмахъ, кгрунтъ — грунтъ, зекгаръ — зегаръ, ликга — лига, микгдалъ — мигдалъ, плякга — пляга, срокгий — срогий, фикгура — фигура;*

к) рознае напісанне прыставак: *отдалити — оддалити, отдати — оддати, откуль — одкуль, оторвати — одорвати, отослати — одослати, натхненье — надхненье, спочатку — зпочатку, спрацованый — зпрацованый, роскидати — розкидати;*

л) рознае напісанне каранёвых зычных і суфіксаў: *найвысший — найвышший, низший — нижший, княжство — князство — княство, убожство — убозство — убоство, лупежца — лупезца, мужский — музский.*

2. Значную колькасць фанетычных варыянтаў утвараюць словы з нерэгулярнымі фанетычнымі зменамі. Сюды, напрыклад, адносяцца:

а) выпадкі замены *ж* на *з* ці наадварот: *выжина — вызина, железо — зелезо, зеремя — жеремя, жродло — зродло, позычити — пожичити;*

б) дысіміляцыя кантактная, пераважна ў запазычаных словах: *амбонъ — анбонъ, брамка — бранка, жемчугъ — женчугъ, комната — ковната, компания — конпания, помпа — понпа;*

в) дысіміляцыя дыстактная: *армария — алмария, барверъ — балверъ, велблюдъ — верблюдъ, перкгримъ — пелкгримъ, секретаръ — секлетаръ, форваркъ — фолваркъ;*

г) метатэза зычных: *клиросъ — крилосъ, пуклеръ — куплеръ, мураль — муляръ, талерка — тарелка, тумултъ — тулмутъ;*

д) выпадзенне зычных: *звлаща — злаща, молвити — мовити, олбримъ—обримъ, оффитость—офитость, фундаментъ—фудаментъ;*

е) устаўка зычных: *зрада — здрада, канониктъ — кановникъ, пробощъ — проборшичъ, фебра — фребра.*

3. Разнастайнасцю арфаграфічных варыянтаў асабліва вылучаюцца запазычаныя словы, якіх у старабеларускай мове было наогул вельмі многа. Тут таксама выдзяляецца некалькі тыпаў варыянтаў:

а) розныя каранёвыя галосныя: *алавастръ — алевастръ, аптека — аптыка, банкетовати — бенкетовати, вандровати — вендровати, електъ — алектъ — олектъ, зуполный — зупелный, капалюшъ — капелюшъ, корона — коруна, куфликъ — кофликъ, мунштукъ — монштукъ, парпура — порпура — пурпура, персона — парсуна — парсона, реторика — риторика, собота — субота, фурманъ — форманъ, хороговъ — хоруговъ, цетваръ — цытваръ, цибуля — цебуля;*

б) розныя вынікі субстытуцыі польскіх насавых галосных: *бенкартъ — букартъ, вонтпити — вунтпити — вутпити, вязенье — везенье — вензенье, галузка — галонзка, клеска — кляска, мосендзовый—мосядзовый, нендза—надза, окрентъ—окрутъ, пенкне — пекне, семпъ — сепъ — супъ, хендокгий — хандокгий — хондокгий;*

в) захаванне гука *ф* і розная замена яго: *фалендышовый — хвалендышовый, фалшивый — хвалшивый, фартухъ — хвартухъ, фляша — пляша — хвляша, фурлюнъ — хурлюнъ, фурманъ — хурманъ, футро — хутро, дуфати — духвати, кафель — кахель, кафтанъ — кахтанъ, трафити — трапити.*

Актыўнае засваенне старабеларускай мовай запазычанай лексікі з гукам *ф* выклікала з'яўленне ў пісьменнасці вялікай колькасці гіпернармалізаваных напісанняў з літарай *ф* на месцы спрадвечнага спалучэння *хв: захвиценье — зафиценье, зухвалый — зуфалый, похвала — пофала, ухвалити — уфалити, ухватити — уфатити, хвиля — филя, хвороба — форoба, хворостъ — форостъ;*

г) мяккія або цвёрдыя зубныя: *артикулъ — артыкулъ, бестия — бестыя, герезия — герезыя, диспутация — дыспутация, кондиция — кондыцыя, конституцыя — констытуцыя, кардиналъ — кардыналъ, оказия — оказыя, практика — практыка, стихия — стыхия, тиранъ — тыранъ, титулъ — тытулъ;*

д) розныя зычныя ў сярэдзіне або ў канцы слоў: *вачокъ— вацокъ, коберецъ — коверецъ, кимбалы — кимвалы, кризолитъ—крисолитъ, ланцугъ — ланцухъ, рожай — родзай, сандчакъ — санчакъ, шиковати — шиховати;*

е) розны пачатак слоў: *аркабузъ — гаркабузъ, галзбантъ — альжбантъ, встремежливость — стремежливость, вспанялость — спанялость, господаръ — осподаръ — сподаръ, гохмистръ — охмистръ, гуфъ — уфъ, електоръ — лекторъ, уфанье — дуфанье, циншъ — чиншъ.*

Усе разгледжаныя варыянты разглядаюцца як неаднолькавыя маніфестацыі адной і той жа лексічнай адзінкі, таму ўсе яны аб'ядноўваюцца пад адным асноўным словам, прычым за асноўнае прымаецца тое слова, якое было найбольш пашырана ў старабеларускай пісьменнасці і адпаведна прадстаўлена большай колькасцю прыкладаў у картатэцы. Так, з варыянтаў *гохмистръ* і *охмистръ* асноўным прызнаецца другі, хоць ён і больш аддалены ад свайго этымона (параўн. ням. Hovemeister). Варыянт *охмистръ* больш распаўсюджан у пісьменнасці і ўваходзіць у адпаведнае словаўтваральнае гняздо старабеларускай мовы (параўн. *охмистрина, охмистровая, охмистровичъ, охмистровство, охмистровъ*).

Асноўным варыянтам адкрываецца слоўнікавы артыкул на дадзенае слова, за ім стаяць усе астатнія варыянты. Гэтыя варыянты, акрамя таго, змяшчаюцца на сваіх алфавітных месцах у якасці спасылачных. Спасылачныя варыянты не выдзяляюцца ў тых выпадках, калі яны, згодна з алфавітным парадкам, не аддзяляюцца ад асноўнай формы іншымі словамі.

Самастойнымі варыянтамі не прызнаюцца адзінкавыя напісанні, калі яны не прэтэндуюць на значэнне арфаграфічнай нормы, хоць і маюць сваё тлумачэнне ў фанетычных працэсах беларускай мовы, напрыклад *афхвектъ* замест *афектъ, грыбетъ — хрибетъ, зличный — сличный, козати — казати, фвалшивый — фалшивый, хрехъ — грехъ.*

### *Іншамоўныя, словаўтваральныя і граматычныя варыянты*

Старабеларуская мова доўгі час знаходзілася пад моцным уздзеяннем царкоўнаславянскай мовы, з аднаго боку, і польскай — з другога. Вынікам гэтага ўздзеяння было перш за ўсё значнае папаўненне слоўнікавага складу беларускай мовы царкоўнаславянскімі і польскімі лексічнымі элементамі, якія нярэдка выцяснялі адпаведныя беларускія або ўжыва-

лісяпаралельна з імі. У пісьмовых помніках часта адно і тое ж паняцце ці прадмет абазначаецца сродкамі трох моў — беларускай, царкоўнаславянскай і польскай. Натуральна, што такія ідэнтычныя ў семантычных адносінах, але розныя па паходжанню і фанетычнаму афармленню словы нельга зводзіць да аднаго якога-небудзь варыянта — яны павінны змяшчацца ў самастойных слоўнікавых артыкулах. Тут перш за ўсё вылучаецца вялікі разрад суадносных поўнагалосных і няпоўнагалосных форм тыпу *голова — глава — глова, здоровье — здравие — здрове, золото — злато — злото, короткий — краткий — кроткий, молодый — младый — млодый, оболокъ — облакъ — облокъ, поломень — пламень — пломень, солодкий — сладкий — слодкий.*

Падобным жа чынам проціпастаўляюцца словы з рознымі рэфлексамі старажытных спалучэнняў *dj, tj*: *немочъ — немощъ — немоцъ, овочъ — овощъ — овоцъ, печъ — пещъ — пецъ.*

Асобнымі артыкуламі афармляюцца таксама і словы з пачатковым *о* або *е*: *одинъ — единъ, олей — елей, олень — елень, осень — есень.* Да гэтых разрадаў слоў прымыкаюць і лексемы з пачатковымі спалучэннямі *ро-, ло-* і *ра-, ла-*: *роба — раба, робота — работа, ровный — равный, розный — разный, розумъ — разумъ, лодья — ладия.*

Няма таксама падстаў аб'ядноўваць у адным артыкуле і іншыя лексічныя проціпастаўленні беларускай і польскай моў, напрыклад дзеясловы, аддзеяслоўныя назоўнікі і дзеепрыметнікі, якія адрозніваюцца наяўнасцю або адсутнасцю эпентэтычнага *л*: *выбавляти — выбавяти, потрафляти — потрафяти, намовленье — намовенье, уступленье — уступенье, збавленый — збавеный, поставленый — поставеный.*

Зусім зразумела, што не могуць быць аб'яднаны ў адным слоўнікавым артыкуле суадносныя беларускія і польскія словы, якія адрозніваюцца словаўтваральнымі сродкамі. Тыповымі ўзорамі такіх слоў могуць быць адрозненні па суфіксах:

*ище — иско*: *зборище — збориско, игрище — игриско, кочовище — кочовиско, назвище — назвиско, огнище — огниско, побоище — побоиско, прозвище — прозвиско, становище — становиско;*

*ина — изна*: *головщина — головщизна, дедина — дедизна, капщина — капщизна, материна — материзна, поконевщина — поконевщизна;*

*янинъ — чикъ*: *египтянинъ — египчикъ, израилтянинъ — израилчикъ, макидонянинъ — макидончикъ.*

У асобных слоўнікавых артыкулах падаюцца і запазычаныя лексічныя сродкі, якія этымалагічна хоць і ўзыходзяць да адной і той жа мовы-крыніцы, але пранікалі ў беларускую мову рознымі шляхамі і атрымалі ў сувязі з гэтым неаднолькавае фанетычнае афармленне: ...



*бастръ — алавастръ, атеистъ — афеистъ, генваръ — январъ, геретикъ — еретикъ, диаволъ — диаболъ, католикъ — кафоликъ, кедръ — цедръ, кимбалы — цимбалы, кистерна — цистерна, марморъ — мраморъ, скипетръ — сцептрумъ, теологъ — феологъ, тронъ — фронъ, тимиянъ — фимиянъ.*

Асобнымі слоўнікавымі артыкуламі афармляюцца і ўласнабеларускія словы, а таксама цалкам асіміляваныя на беларускай глебе даўнія запазычанні, якія адрозніваюцца словаўтваральнымі сродкамі — пераважна суфіксамі і радзей прыстаўкамі. Такі ж падыход распаўсюджваецца і на карэлятыўныя сродкі выражэння граматычных катэгорый змяняемых часцін мовы.

### *Назоўнік*

У сістэме назоўніка суфіксальныя адрозненні вельмі разнастайныя, яны выяўляюцца шматлікімі выпадкамі тыпу *берковецъ — берковескъ, гречка — гречиха, ездакъ — ездецъ, злочинецъ — злочинца, карчмаръ — карчмитъ, кормилецъ — кормитель, крамаръ — крамникъ, ластовка — ластовица, лиса — лисица, понеделокъ — понеделникъ, творецъ — творца.*

Асабліва вялікую колькасць суадносных форм утвараюць разнастайныя назоўнікі з ацэначнымі суфіксамі: *ведро — ведерко, земля — землица, зерне — зернетко, келихъ — келишокъ, кожухъ — кожушокъ, ручникъ — ручничокъ.* Многія назоўнікі зафіксаваны ў помніках па ступеньчатай сістэме ўтварэння памяншальна-ласкальных форм: *карта — картка — карточка, кветъ — кветокъ — кветочокъ, ковшъ — ковшикъ — ковшичокъ, корень — коренекъ — коренчикъ, лава — лавка — лавица, листъ — листокъ — листочекъ, миса — миска — мисочка, садъ — садокъ — садочекъ, сынъ — сынокъ — сыночекъ, форта — фортка — форточка, хуста — хустка — хусточка.* Некаторыя з такіх суадносных форм часам маюць рознае значэнне: *древо* 'дрэва' — *древко* 'палка' да якой прымацоўваецца сцяг', *мама* 'маці' — *мамка* 'нянька', *место* 'горад' — *местечко* 'мястэчка'.

Асобна падаюцца ў слоўніку, акрамя таго, наступныя формы:

а) аддзеяслоўныя назоўнікі і суадносныя з імі формы з фармантам *-ся*, якія паходзяць ад дзеясловаў зваротнасярэдняга стану: *валенье — валеньеся, збиранье — збираньеся, коханье — коханьеся, розлученье — розлученьеся;*

б) зборныя назоўнікі: *гвоздье, деревье, кветье, колосье, коренье, пеневье;*

в) назоўнікі, якія адрозніваюцца граматычным родам: *адамашка — адамашокъ, боклага — боклагъ, брухо — брухъ,*

*вапно — вапна, диво — дивъ, крама — крамъ, олово — оловъ, привилей — привилье, птаха — птахъ, шмата — шматъ;*

г) назоўнікі з прыстаўкай *пол- (полу-): поларкуша, полбохона, полгода, полгроша, полталера, полкоролевства, полуатласъ, полубочокъ, полумиля, полуночъ.*

### Прыметнік

У слоўніку змяшчаюцца ўсе выяўленыя ў помніках зыходныя формы прыметнікаў. Акрамя таго, уключаюцца:

а) словаўтваральныя варыянты прыметнікаў: *голдовный— голдовый, грецкий — греческий, мужский — мужеский, еретицкий — еретический, католицкий — католический, пророцкий — пророческий, цегелный — цегляный, шарлатный — шарлатовый;*

б) прыметнікі з суфіксамі суб'ектыўнай ацэнкі: *короткий — коротенький, малый — маленький, молодый — молоденький — молодюсенький — молодюхный;*

в) прыметнікі з прыстаўкай *пол- (полу-): ползолотый, полубочковый, получеский, полушарлатный;*

г) формы вышэйшай ступені параўнання з суфіксам *-ейш-: зацнейший, значнейший, лацнейший, моцнейший;*

д) формы вышэйшай ступені параўнання з суфіксам *-ш-: богатший, гладший, глубший, горачший, готовший, далший, дорожший, дужший, дешевший, коротший, милший, новший, простший, прудший, чистший;*

е) формы вышэйшай ступені з прыстаўкай *пре-: предвячный, превелебный, превеликий, превечный, преганебный, прегоркий, предивный, пресветлый, преславный, пресмутный, претяжкий;*

ж) формы найвышэйшай ступені з прыстаўкай *най-: найбогатший, найвысший, найдорожший, наймилший, найвдячнейший, наймилейший, найсличнейший;*

з) формы абсалютнай найвышэйшай ступені з прыстаўкамі *пре-* і *най-: пренайдорожший, пренайсвятейший, пренайчистший, пренайщасливший.*

### Дзеяслоў

Выходнай формай дзеяслова з'яўляецца інфінітыў, прычым у інфінітыве прыводзяцца ў слоўніку і такія дзеясловы, якія ў помніках адлюстраваны толькі ў спрагальных формах.

З дзеяслоўных форм у слоўніку падаюцца асобна:

а) карэлятыўныя трывальныя пары, калі яны адзначаюцца ў помніках у абедзвюх формах: *дозволити — дозволяти, допомочи — допомогати, затопити — затопляти, налити — наливати, наполнити — наполняти, научити — научати, послати — посылати, кликнути — кликати, присягнути — присягати;*

б) станавыя формы дзеяслова: *замкнути — замкнутися, заховати — заховатися, звати — зватися, кохати — кохатися, мыти — мытися, народити — народитися, поткати — поткатися, фрасовати — фрасоватися.*

Асобна трэба агаварыцца аб дзеепрыметніках і дзеепрыслоўях.

Дзеепрыслоўі спецыяльна выдзяляць у слоўніку няма патрэбы, бо яны вельмі абмежаваны ў словаўтваральных і парадыгматычных адносінах. Але мэтазгодна ў рэестры слоўніка выдзеліць дзеепрыметнікі, якія ў старабеларускай мове складалі самастойную граматычную катэгорыю і прыкметна адрозніваліся ад дзеясловаў як сваімі граматычнымі паказчыкамі, так і сінтаксічнай роляй. Асобныя дзеепрыметнікі пры ўтварэнні выяўляюць індывідуальныя марфалагічныя асаблівасці, не ўсе яны аднолькава выводзяцца з парадыгмы дзеяслова. З дзеепрыметнікаў у слоўніку асобна падаюцца:

а) дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану на *-ч-: збираючий, играючий, квитнуючий, кипячий, кормячий, любячий, мовячий, мордуючий, обфитуючий, оферуючий, пануючий, пилнуючий, працуючий, примушаючий, пытаючий, спеваючий, триумфуючий, турбуючий, шкодячий;*

б) адпаведныя дзеепрыметнікі зваротна-сярэдняга стану з фармантам *-ся: збегаючийся, збираючийся, каючийся, кланючийся, кормячийся, кохаючийся, криючийся, пасучийся, псуючийся, пытаючийся, рахуючийся, рушаючийся, светячийся, фрасуючийся;*

в) дзеепрыметнікі цяперашняга часу залежнага стану на *-м: гонимый, збираемый, зовемый, называемый, нарицаемый, носимый, оферуемый, посылаемый, спасаемый, хвалимый;*

г) дзеепрыметнікі прошлага часу незалежнага стану на *-ш: давший, зблудивший, звытяживший, заснувший, зшедший, иссохший, минувший, написавший, погибший, пославший, приехавший, умерший;*

д) дзеепрыметнікі прошлага часу залежнага стану на *-н-* і *-т-: збавленый, збудованый, злупленый, написаный, переконаный, умоцненый, крытый, нятый, одетый, проколотый.*

е) дзеепрыметнікі цяперашняга часу незалежнага стану царкоўнаславянскага паходжання з фармантам *-щ-: живущий, играющий, идущий, карающий, квитнеющий, кормящий, милующий, мовящий, належащий, носящий, плавающий, прагнущий, просящий, ходящий;*

ж) адпаведныя царкоўнаславянскія дзеепрыметнікі з фармантам *-ся: зовущийся, кающийся, крестящийся, молящийся, надеющийся, приближающийся, радующийся, хвалящийся;*

з) старыя царкоўнаславянскія дзеепрыметнікі тыпу *всемогий, запретивый, затворивый, изведый, паляй, предавый.*

Помнікі старажытнай беларускай пісьменнасці адлюст-
роўваюць працэс актыўнага пераўтварэння ў прыслоўі сло-
вазлучэнняў розных тыпаў і паасобных склонавых форм на-
зоўнікаў і прыметнікаў. Можна з усёй катэгарычнасцю
сцвярджаць, што станаўленне асноўных разрадаў так званых
другасных па паходжанню прыслоўяў, вядомых сучаснай бе-
ларускай мове, адносіцца да эпохі старабеларускай мовы.
Гістарычны слоўнік беларускай мовы, натуральна, павінен
адлюстроўваць вынікі гэтага працэсу.

Аднак практычна праблема адмежавання прыслоўяў ад
адпаведных склонавых форм назоўнікаў і прыметнікаў ці
словазлучэнняў сутыкаецца са значнымі цяжкасцямі і пры
ўкладанні рэестра слоўніка вырашаецца ў кожным канкрэт-
ным выпадку асобна. Калі да словазлучэння падыходзяць
пытанні прыслоўяў тыпу *як?, дзе?, куды?, адкуль?, калі?,* яно
расцэньваецца як прыслоўе і афармляецца як самастойнае
слова.

Такім чынам, у якасці прыслоўяў афармляюцца розныя
склонавыя формы накшталт *гурмомъ, днемъ, дома, зиме, ле-
те, молчкомъ, нарокомъ, ночью, огуломъ, пехотою, порадкомъ,
разомъ, целкомъ, часомъ, частью* і г. д.

Яшчэ большую колькасць прыслоўяў утвараюць разнастай-
ныя спалучэнні прыназоўнікаў з назоўнікамі, прыметнікамі,
лічэбнікамі: *вголовахъ, вправде, вчетверо, додому, дозавтрея,
допозна, зачасомъ, зблизка, збоку, звнутра, звысока, здавна,
здалека, наверху, навылетъ, надвое, накрижъ, наостатокъ, на-
память, напервей, напотомъ, натрое, поневоли, порану, поряду,
посередине, почасти, почетверти.*

Па агульнаму правілу асобна падаюцца ў слоўніку формы
ступеней параўнання прыслоўяў: *барзо — барзей — найбарзей,
близко — ближей — найближей, далеко — далей — найдалей,
пилно — пилней — найпилней.*

Кожны разгледжаны ў гэтым раздзеле іншамоўны, слова-
ўтваральны ці граматычны варыянт афармляецца ў слоўніку
самастойным слоўнікавым артыкулам.

## СТРУКТУРА СЛОЎНІКАВАГА АРТЫКУЛА

Слоўнікавы артыкул складаецца з наступных асноўных
частак: 1. Загаловачнае (рэестравае) слова; 2. Граматычная
памета; 3. Тлумачэнне значэння слова (дэфініцыя); 4. Экзем-
пліфікацыя; 5. Фразеалагічныя і ўстойлівыя словазлучэнні;
6. Супастаўляльная ці адсылачная памета. Пры гэтым першыя
чатыры часткі з'яўляюцца агульнымі і абавязковымі для ўсіх
слоўнікавых артыкулаў, наяўнасць жа астатніх дзвюх абумоў-
ліваецца сэнсавай і структурнай характарыстыкай слова.



Загаловачныя словы знамянальных часцін мовы прыво-
дзяцца ў сваіх выходных формах: назоўнікі, асабовыя зай-
меннікі і колькасныя лічэбнікі — у форме назоўнага склону
адзіночнага ліку; прыметнікі, прыметнікавыя займеннікі, па-
радкавыя лічэбнікі і дзеепрыметнікі — у форме назоўнага
склону адзіночнага ліку мужчынскага роду; дзеясловы — у
інфінітыве.

Загаловачнае слова падаецца ва уніфікаванай графіка-
арфаграфічнай абалонцы, прычым за аснову прымаюцца гра-
фіка-арфаграфічныя прыёмы дзелавой пісьменнасці, якая
была найбольш распаўсюджанай у старажытнасці і асабліва
блізкай да жывой народнай мовы свайго часу. Для запісу
загаловачных слоў выкарыстоўваюцца наступныя літары: *а,
б, в, г, д, е, ж, з, и, й, к, л, м, н, о, п, р, с, т, у, ф, х, ц, ч, ш,
щ, ъ, ы, ь, э, ю, я.* Старажытныя кірыліцкія літары, якія ад-
сутнічаюць у сучасным алфавіце, замяняюцца адпаведнымі
сучаснымі графічнымі сродкамі: літары ѫ, ȣ і дыграф *оу* пе-
радаюцца праз *у*, адпаведна Ѥ, Є і ѣ — *е*, ꙗ, ѧ — *я*, *і* — *и*,
ѡ — *о*, ѕ — *з*, ѳ — *ф*, ѵ — *и*, ѯ — *кс*, ѱ — *пс*, ѿ — *от*, ˢ — *й*
(у словах пасля галосных).

Пры афармленні загаловачных слоў наяўныя ў тэкстах
надрадковыя літары ўносяцца ў радок, прычым у канцы слоў
пасля зычных дапісваецца ъ або ь, напрыклад: *зе*$^{м}$*лѧ* — *зем-
ля, горо*$^{д}$ — *городъ, де*$^{н}$ — *день.* Літара ъ дапісваецца ў кан-
цы слоў і ў выпадках, калі ў арыгінале на месцы яе ўжыты
паерак (*лѣс*$^{s}$) або яна адсутнічае зусім (звычайна пры напі-
санні прыназоўнікаў). Наадварот, у сярэдзіне слоў літара ъ
не пішацца, калі яна не мае гукавога значэння: *зънамѧ —
знамя, въжды — вжды, тридъцать — тридцать.*

Паасобныя часціны мовы маюць некаторыя асаблівасці ў
афармленні выходных форм. Так, аддзеяслоўныя назоўнікі з
асновай на *н* у пісьмовых помніках перадаюцца па-рознаму:
на *-ние, -нье, -не* і *-нне.* Аднак асноўнай арфаграфічнай нор-
май старажытнай пісьменнасці было напісанне праз *-нье: бу-
дованье, писанье, хотенье.* Таму гэта напісанне прымаецца
за асноўнае, па такому ўзору афармляюцца і іншыя адна-
тыпныя словы. У рукапісных помніках пазнейшага часу су-
фіксальны зычны такіх назоўнікаў, як правіла, выносіўся над
радком: *будова*$^{н}$*е, писа*$^{н}$*е, хоте*$^{н}$*е.* У загаловачных формах
такія словы пішуцца з унясеннем суфіксальнага зычнага ў
радок і напісаннем пасля яго знака *ь: будованье, писанье,
хотенье.*

Пры афармленні загаловачных назоўнікаў узнікаюць
пэўныя цяжкасці ў вызначэнні лікавых форм. Параўнальна

3 Зак. 739

лёгка вырашаецца гэта пытанне ў адносінах да многіх зборных, парных, рэчыўных і абстрактных назоўнікаў, якія звычайна ўжываюцца толькі ў множным ліку: *варцабы, вилы, грабли, заручины, именины, кейданы, конопли, крупы, ножницы, ночвы, оковы, останки, плюндры, поминки, помыи, сани, сени, фохи, цукгли, хоромы, чари, шали, шахи, ясли.*

Некалькі цяжэй вызначаць зыходныя формы для назоўнікаў, якія ў тэкстах практычна фіксуюцца толькі ў множным ліку, але не выключаецца магчымасць ужывання іх і ў адзіночным ліку: *ноздри, пончохи, сапоги, шанцы.* Нарэшце, асобны разрад утварае параўнальна невялікая колькасць назоўнікаў, якія ўжываюцца пераважна ў форме множнага ліку (*кгонты, ловы, обцукги, ростани, цимбалы*), але зрэдку трапляюцца і ў форме адзіночнага ліку (*кгонтъ, ловъ, ростань, цимбалъ*). Ва ўсіх гэтых выпадках перавага аддаецца форме, якая была найбольш характэрнай для старажытнай пісьменнасці і зафіксавана большай колькасцю прыкладаў у картатэцы.

Па-рознаму афармляюцца таксама і назоўнікі з прыстаўкай *пол- (полу-).* Назіранне над помнікамі паказвае, што прыстаўка *пол-* звычайна спалучалася з формай роднага склону назоўніка: *поларкуша, полгода, полгроша, ползвера, полрока, полталера, полфунта; полбочки, полгодины, полгривны, полдороги, полкопы, полмили, полсохи, полцеркви; полкоролевства, полместа, полнеба, полозера, полцарства.* Форма назоўнага склону назоўніка ў такіх выпадках звычайна ўжываецца вельмі рэдка: *полгакъ, покгарцовка, полмаетность.*

З другога боку, у спалучэннях з прыстаўкай *полу-* назоўнік амаль заўсёды выступае ў форме назоўнага склону: *полуатласъ, полуберковескъ, полугрошокъ, полугривна, полудень, полукошекъ, полумиля, полумисокъ, полуночъ, полутарасница.*

Усе прыметнікі старабеларускай пісьменнасці ў форме назоўнага склону мужчынскага роду адзіночнага ліку канчаюцца на *-ый* або *-ий* і, згодна з гэтым правілам, яны прыводзяцца ў загаловачных формах: *добрый, значный, новый, старый, великий, синий.* Пры гэтым наяўныя ў помніках паралельныя формы *добрый — добрий, старый — старий* зводзяцца да адзінага этымалагічнага напісання, паколькі такое напісанне было асноўным у старажытным правапісе, а формы на *-ий* — гэта толькі арфаграфічнае адхіленне, якое сведчыць аб зацвярдзенні ў беларускай мове таго часу гука *р*: не чуючы кантролю з боку жывога вымаўлення, пісцы па агульнаму традыцыйнаму правапісу пісалі *-и-* і ў тых формах, дзе ўжо вымаўляўся цвёрды *р*.

Усе прыметнікі ў загалоўках слоўнікавых артыкулаў прыводзяцца ў поўных (займенных) формах, хоць у старабеларускай мове прыметнікі ў ролі выказніка звычайна ўжываліся ў кароткіх формах. Перадача прыметнікаў у поўнай форме матывуецца тым, што ўжо ў раннюю эпоху самастойнай гісторыі беларускай мовы пануючай функцыяй прыметнікаў была функцыя азначэння, якая лічыцца асноўнай для гэтай часціны мовы.

Не ўсе прыметнікі ў загаловачным слове прыводзяцца ў зыходнай форме назоўнага склону адзіночнага ліку мужчынскага роду. Гэта датычыць розных груп шматлікіх у старабеларускай мове субстантываваных прыметнікаў.

У форме ніякага роду адзіночнага ліку падаюцца:

а) субстантываваныя прыметнікі, якія абазначаюць назвы розных відаў плацяжоў і падаткаў: *бочечное, весебное, вижованое, гребелное, квитовое, котловое, лаштовое, мостовое, паметное, писчое, подводное, подужное, подымное, поквитное, поланцужное, померное, потуремное, струговое, торговое, чоповое.*

б) субстантываваныя прыметнікі, якія абазначаюць назвы пасад: *конюшое, крайчое, лесничое, ловчое, мостовничое, подчашое, хоружое.*

У форме жаночага роду адзіночнага ліку прыводзяцца:

а) субстантываваныя прыметнікі, якія абазначаюць жанчын па пасадах ці тытулах мужоў або па спецыфічна жаночых спецыяльнасцях: *дойлидовая, кролевая, лекаревая, маршалковая, охмистровая, писаревая, подскарбиная, ротмистровая, свиренная, старостиная;*

б) прыметнікі, якія наогул ужываюцца толькі ў форме жаночага роду: *беременная, вселенная, мужатая, огневая, поросная, телная.*

Сярод прыметнікаў выдзяляецца параўнальна шматлікая група слоў, якія абазначаюць масці жывёл, напрыклад *збугнедый, зворонастрокатый, зтемнаполовый* і інш. У выданнях актавага матэрыялу такія прыметнікі перададзены як спалучэнні трох слоў: *зъ бура гнедый, зъ бура подласый, зъ ворона плесвивый, зъ ворона строкатый, зъ гнеда красный, зъ гнеда чалый, зъ полова тисавый, зъ рыжа строкатый, зъ рыжа чалый, зъ темна половый, зъ чорна строкатый* і інш. У такім выглядзе яны захаваны і ў выкарыстаных ілюстрацыях з выданняў, аднак у загаловачных словах такія складаныя прыметнікі падаюцца як цэласныя лексічныя адзінкі.

Прыслоўі ў загаловачных формах падаюцца як цэласныя структурна аформленыя лексічныя адзінкі нават у тых выпадках, калі ў склад іх уваходзяць прыстаўкі — ранейшыя прыназоўнікі. У якасці самастойных слоў афармляюцца і прыслоўі, якія ў пазнейшых выданнях часам няправільна перададзены як словаспалучэнні: *з особна, на борздей, на*

*верху, на вылетъ, на заютръ, на первей, не нарокъ, не по од-нокротъ, по готову, по рану, по розну, по трете, по трикроть, у потемку.* Такія выразы афармляюцца як адно слова: *зособ-на, наборздей, наверху, навылетъ, назаютръ, напервей, не-нарокъ, непооднокроть, поготову, порану, порозну, потрете, потрикроть, употемку.*

Прыстаўка *по-* ў складзе адпрыметнікавых прыслоўяў пі-шацца злітна: *повлоску, погрецку, поегипетску, поиюдейску, покозацку, политовску, полатинску, понемецку, пополску, по-руску.*

Словы, якія ў старажытных тэкстах запісаны ў скарочa-ным выглядзе пад цітлай, у загалоўках прыводзяцца ў поў-най форме: *апс̃лъ — апостолъ, бл̃годать — благодать, вл̃дка — владыка, гд̃рь — господарь, дв̃ца — девица, мл̃сть — милость, м̃чнкъ — мученикъ, пр̃ркъ — пророкъ, цркв̃ъ — церковъ, чл̃вкъ — человекъ* і г. д.

Пад агульнапрынятыя нормы старажытнай пісьменнасці падводзяцца і такія словы, пры напісанні якіх дапушчаны відавочныя памылкі. Правільнае напісанне такіх слоў па-казваецца іншымі выпадкамі фіксацыі іх у помніках. На-прыклад, выяўленыя ў кантэкстах напісанні накшталт *вы-рочницница, вылязца, грыбетъ, зверостъ, ожелье, пиволанье, трапежный, фвалшивый, зхизма, чожоложити* ў рэестры слоў-ніка перадаюцца як *вырочница, выналязца, хрыбетъ, взростъ, ожерелье, поволанье, драпежный, фалшивый, схизма, чужо-ложити.*

Некаторая частка старажытных тэкстаў дайшла да нас запісанай лацінкай у яе польскай мадыфікацыі. Словы з та-кіх помнікаў, якія сустракаюцца таксама і ў кірыліцкіх тэк-стах, у загаловачных формах захоўваюцца ў кірыліцкай гра-фічнай абалонцы. Словы ж, якія не адзначаюцца ў кірыліц-кіх помніках, транслітуюцца ў кірыліцкае пісьмо, і ў такім выглядзе прыводзяцца ў загалоўках слоўнікавых артыкулаў.

## 2. Граматычныя паметы

Кожнае загаловачнае слова суправаджаецца граматычнай паметай, якая ўказвае на часціну мовы і дае граматычную характарыстыку гэтаму слову. Найбольш ужывальныя ў слоўніку наступныя паметы: *адз.*— адзіночны лік; *адм.*— ад-моўны; *асаб.*— асабовы; *выкл.*— выклічнік; *выш. ст.* — вы-шэйшая ступень; *дзеепрым.*— дзеепрыметнік; *дзеясл.*— дзея-слоў; *ж.*— жаночы род; *займ.*— займеннік; *зак.*— закончанае трыванне; *зб.*— зборны; *зв.*— зваротны; *зл.*— злучнік; *ліч.*— лічэбнік; *наз.*— назоўнік; *незак.*— незакончанае трыванне; *па-*



*мянш.*— памяншальная форма; *перан.*— пераноснае значэнне; *прым.* — прыметнік; *прыназ.* — прыназоўнік; *прысл.* — пры-слоўе; *часц.*— часціца; *шматкр.*— шматкратны.

## 3. Тлумачэнне значэння слова

Раскрыццё значэння слова (дэфініцыя) дасягаецца роз-нымі шляхамі ў залежнасці ад лексіка-семантычнай характа-рыстыкі слова і яго граматычных паказчыкаў. Найбольш распаўсюджаным прыёмам з'яўляецца падбор адпаведнага лексічнага эквівалента сучаснай беларускай мовы: **Белтъ** *наз. Страла* [...]; **Вечерний** *прым. Заходні* [...]; **Вонтпенье** *наз. Сумненне* [...]; **Едвабъ** *наз. Шоўк* [...]; **Запашный** *прым. Пахучы* [...]; **Куповати** *дзеясл. Купляць* [...]; **Лацно** *прысл. Лёгка* [...][20].

У іншых выпадках тлумачэнне праводзіцца шляхам пад-бору рада сінонімаў сучаснай беларускай мовы: **Болото** *наз. Гразь, смецце, гной* [...]; **Валечность** *наз. Храбрасць, муж-насць, доблесць, адвага* [...]; **Вдячный** *прым. Чароўны, пры-вабны, прыгожы, абаяльны* [...]; **Дворно** *прысл. Ветліва, далікатна, прыязна* [...]; **Лекатися** *дзеясл. Палохацца, пу-жацца, баяцца, асцерагацца* [...] і г. д.

Значэнне некаторых слоў раскрываецца і апісальна, калі гутарка ідзе пра прадметы, рэаліі ці паняцці, якія выйшлі з ужытку ў пазнейшы час: **Бернардынъ** *наз. Манах каталіцка-га ордэна св. Бернарда* [...]; **Возный** *прым. у знач. наз.Ураднік, у абавязкі якога ўваходзіла вызначэнне вінаватасці каго-н., разнос позваў і назіранне над выкананнем судовых рашэнняў* [...]; **Капитула** *наз. Калегія духоўных асоб пры епіскапскай кафедры* [...]; **Прономия** *наз. Маёнтак, з якога даход ішоў у карысць рымска-каталіцкага духавенства* [...].

Значэнне асобных вытворных слоў можа раскрывацца спа-сылкамі на адпаведныя зыходныя формы. Гэты спосаб тлу-мачэння прымяняецца ў наступных выпадках:

а) памяншальныя назоўнікі могуць раскрывацца спасыл-камі на адпаведныя намінатыўныя формы: **Зернетко** *наз., па-мянш. ад* зерне [...]; **Кожушокъ** *наз., памянш. ад* кажухъ [...]; **Хустка** *наз., памянш. ад* хуста [...];

б) менш характэрныя словаўтваральныя варыянты назоў-нікаў раскрываюцца спасылкамі на суадносныя больш па-шыраныя варыянты: **Лисица** *наз. Тое, што і* лиса [...]; **Корми-тель** *наз. Тое, што і* кормилецъ [...]; **Злочинца** *наз. Тое, што і* злочинецъ [...];

[20] Прыведзеныя тут і ніжэй тлумачэнні паасобных старабеларускіх слоў носяць папярэдні характар і могуць быць удакладнены пры распра-цоўцы ў будучым слоўнікавых артыкулаў на гэтыя словы.

в) зборныя назоўнікі тлумачацца спасылкамі на выходныя формы: **Брусье** *наз., зб. ад* брусъ [...]; **Кветье** *наз., зб. ад* кветъ [...]; **Коренье** *наз., зб. ад* корень [...];

г) назоўнікі, якія адрозніваюцца граматычным родам, раскрываюцца спасылкамі на больш распаўсюджаныя формы: **Боклага** *наз. Тое, што і* боклагъ [...]; **Вапна** *наз. Тое, што і* вапно [...]; **Птаха** *наз. Тое, што і* птахъ [...];

д) аддзеяслоўныя назоўнікі могуць вызначацца шляхам адсылкі да значэння адпаведных дзеясловаў: **Будованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* будовати [...]; **Писанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* писати [...]; **Хотенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* хотети [...].

е) вытворныя адносныя прыметнікі могуць вызначацца шляхам спасылак на адпаведныя назоўнікі, ад якіх яны ўтвораны. Тут выкарыстоўваюцца разнастайныя паметы тыпу *прым. ад, уласцівы, які адносіцца, зроблены, прывезены* і інш.: **Завыйковый** *прым. Зроблены з шыйных частак шкур* [...]; **Каразеевый** *прым. Зроблены з грубай шарсцяной тканіны* [...]; **Кглейтовный** *прым. ад* кглейтъ [...]; **Коленский** *прым. Зроблены ў горадзе Кёльне* [...]; **Муравский** *прым. Прывезены з Маравіі* [...];

ж) зваротныя дзеясловы з часціцай *-ся* раскрываюцца праз адпаведныя незваротныя: **Захovатися** *дзеясл., зв. ад* заховати [...]; **Крытися** *дзеясл., зв. ад* крыти [...]; **Радитися** *дзеясл., зв. ад* радити [...].

У мнагазначных (полісемантычных) словах распрацоўваецца паасобна кожнае значэнне, якое памячаецца арабскай лічбай і пачынаецца з абзаца. Увогуле выдзяленне значэнняў з'яўляецца адной з самых складаных лексікаграфічных праблем нават для сучасных моў, вырашэнне яе залежыць ад моўнага чуцця лексікографа і яго лексікаграфічнага майстэрства. Гэта праблема асабліва цяжкая для гістарычнага слоўніка, дзе прыходзіцца мець справу толькі з пісьмовымі крыніцамі, паказанні якіх не могуць кантраляваць моўным чуццём.

У межах асобнага значэння выдзяляюцца выпадкі пераноснага ўжывання дадзенага слова. Прыклады на пераноснае значэнне прыводзяцца з паметай *перан.* пасля экземпліфікацыі асноўнага значэння і аддзяляюцца дзвюма вертыкальнымі рыскамі: **Бедро** *наз. Бядро.* // *перан. Род, патомства* [...].

Значную цяжкасць складае размеркаванне (іерархія) значэнняў унутры слоўнікавых артыкулаў. У практыцы падрыхтоўкі лексікаграфічных даведнікаў прымяняюцца розныя крытэрыі размяшчэння значэнняў: эмпірычны, генетычны, лагічны, гістарычны, прычым часцей за ўсё складальнікі слоўнікаў прытрымліваюцца або эмпірычнага, або гістарычнага.

Эмпірычны крытэрый грунтуецца на выдзяленні ў першую



чаргу найбольш распаўсюджаных значэнняў, зафіксаваных большай колькасцю прыкладаў у картатэцы. Гэты крытэрый часцей за ўсё прымяняецца пры падрыхтоўцы слоўнікаў сучасных моў безадносна да іх гісторыі.

Гістарычны крытэрый прадугледжвае змяшчэнне на першае месца этымалагічнага значэння слова і затым падачу ў адпаведнай паслядоўнасці яго пазнейшых значэнняў незалежна ад таго, наколькі пашыраным было тое ці іншае значэнне для мовы пэўнага перыяду. Такі прынцып размяшчэння значэнняў дае магчымасць прасачыць семантычную гісторыю слова, выявіць, якім чынам кожнае наступнае значэнне магло ўзнікнуць і развіцца з папярэдняга. Гістарычнаму прынцыпу аддаецца перавага ў гістарычным слоўніку беларускай мовы. Аднак паслядоўнае ажыццяўленне яго таксама сутыкаецца з пэўнымі цяжкасцямі. Назіранне над пісьмовымі помнікамі паказвае, што часам больш старыя значэнні зафіксаваны ў пазнейшых помніках, а навейшыя значэнні — у больш ранніх крыніцах. У семантычным ланцугу могуць адсутнічаць асобныя звенні, не зафіксаваныя ў пісьмовых крыніцах. Слоўнікавы састаў беларускай мовы вывучаны яшчэ вельмі слаба з пункту погляду этымалогіі. У сувязі з гэтым для размяшчэння значэнняў па гістарычнаму прынцыпу не заўсёды можна знайсці дастатковыя падставы. Таму практычна ўяўляецца апраўданым з кожным канкрэтным словам абыходзіцца так, як гэта аказваецца найбольш мэтазгодным, каб паказаць важнейшыя факты гісторыі слова і яго ўжывання ў помніках.

### *4. Экземпліфікацыя*

Кожнае слова і асобнае яго значэнне, а таксама кожны фразеалагічны зварот і лексікалізаванае словазлучэнне ілюструюцца цытатамі з помнікаў старабеларускай пісьменнасці. З наяўнай на кожнае слова колькасці картак непасрэдна ў слоўнік уваходзіць толькі частка прыкладаў. Складальнікі імкнуліся падбіраць такія ілюстрацыі, у якіх найбольш ярка і тыпова перадаецца данае значэнне ці адценне. Колькасць цытат на асобнае слова ці яго значэнне залежыць ад колькасці картак на данае слова. З мэтай скарачэння аб'ёму цытаты дапускаецца пропуск паасобных яе частак, прычым прапушчаныя часткі абазначаюцца шматкроп'ем.

Ілюстрацыйны матэрыял падбіраецца такім чынам, каб паказаць распаўсюджанасць слова ў розных жанрах старажытнай пісьменнасці, а таксама яго храналогію. Важным уяўляецца, апрача таго, і адлюстраванне граматычнай біяграфіі слова, наколькі гэта дазваляе зрабіць наяўны матэрыял. Прыклады з помнікаў размяшчаюцца ў храналагічным парадку. Цытатны матэрыял, як правіла, адлюстроўвае самыя

раннія і самыя позні выпадкі ўжывання рэестравага слова ці яго асобнага значэння незалежна ад семантычнай вартасці цытаты. Прыклады з помнікаў, якія не захаваліся ў арыгіналах, але дайшлі да нас у пазнейшых спісах, таксама датуюцца часам стварэння помніка (калі гэта вядома). Такі падыход грунтуецца на перакананні, што пры перапісцы тэксту моўныя напластаванні закраналі часцей за ўсё арфаграфію, радзей — граматыку, але слоўнікавы склад практычна заставаўся без змен.

У ілюстрацыйнай частцы слоўнікавага артыкула змяшчаюцца таксама прыклады на важнейшыя арфаграфічныя варыянты, якія падаюцца пасля загаловачнай формы і асобна на сваіх алфавітных месцах.

Ілюстрацыйны матэрыял прыводзіцца ў слоўнікавых артыкулах з захаваннем усіх важнейшых графіка-арфаграфічных асаблівасцей апрацаваных крыніц. Па характару адлюстравання графіка-арфаграфічных рыс арыгіналаў апрацаваныя крыніцы падзяляюцца на тры групы: а) арыгіналы (фотакопіі і мікрафільмы); б) пазнейшыя выданні з захаваннем графіка-арфаграфічных асаблівасцей арыгіналаў і в) пазнейшыя выданні без захавання графіка-арфаграфічных асаблівасцей арыгіналаў.

Крыніцы першай групы — гэта пераважна свецка-мастацкія і рэлігійныя помнікі, якія для слоўніка старабеларускай мовы апрацаваны ў большасці па арыгіналах. У ілюстрацыях з гэтых помнікаў захоўваюцца важнейшыя графічныя і арфаграфічныя рысы арыгіналаў, у прыватнасці літары старажытнага алфавіта: ѧ, ꙗ, ȣ, ѣ, ѡ і інш. Апускаюцца толькі надрадковыя значкі, якія не мелі гукавога значэння. Аднак пакідаецца паерак, калі ён ставіўся ў канцы слоў замест ъ (*дом*$^{s}$, *сад*$^{s}$) або ў сярэдзіне іх перад галоснымі (*под*$^{s}$*ехати*) і ў тых выпадках, калі ён пісаўся пасля галоснай замест *й* (*би*$^{s}$, *золоты*$^{s}$, *мо*$^{s}$, *тво*$^{s}$).

Вынасныя літары, якія ў скарапісным пісьме асабліва часта ўжываліся ў канцы слоў (*горо*$^{\text{д}}$, *на*$^{\text{ш}}$, *носи*$^{\text{т}}$, *ходи*$^{\text{т}}$, *добро*$^{\text{г}}$, *ново*$^{\text{г}}$), у сярэдзіне слоў пасля галоснай літары перад наступнай зычнай (*зе*$^{\text{м}}$*лꙗ*, *ло*$^{\text{ж}}$*ка*) і асабліва ў аддзеяслоўных назоўніках (*взꙗ*$^{\text{т}}$*е*, *ноше*$^{\text{н}}$*е*, *писа*$^{\text{н}}$*е*), уносяцца ў радок, але выдзяляюцца курсіўным шрыфтам: горо*д*, на*ш*, носи*т*, ходи*т*, добро*г*, ново*г*, ноше*н*е, писа*н*е. Дапіска складальнікамі якіх-небудзь адсутных літар не апраўдана па той прычыне, што розныя помнікі і нават асобныя ўрыўкі з аднаго і таго ж твора даюць у гэтых адносінах розныя паказанні. Так, у адным і тым жа помніку могуць быць наступныя варыянты інфінітываў: з фармантам *-ти* (*брати, носити, ходити*), з фармантам *-ть* (*брать, носить, ходить*), з цвёрдым *-т* (*братъ,носитъ, ходитъ*) і з вынасным *т* (*бра*$^{\text{т}}$, *носи*$^{\text{т}}$, *ходи*$^{\text{т}}$). Сцвярджаць дакладна, як у кожным канкрэтным выпадку павінен чытацца інфінітыў з вынасным *т*, няма ніякіх падстаў, таму якое-небудзь іншае вырашэнне гэтай праблемы немагчыма. Тое ж можна сказаць і аб аддзеяслоўных назоўніках, якія ў помніках пісаліся або з вынасным суфіксальным зычным (*будова*$^{\text{н}}$*е*, *писа*$^{\text{н}}$*е*), або з літарай *ь* пасля суфіксальнага зычнага (*будованье, писанье*), або з літарай *и* пасля зычнага (*будование, писание*), або з падвоеным зычным (*будованне, писанне*).



У прыкладах з рукапісных арыгіналаў праводзіцца разбіўка суцэльнага тэксту на асобныя самастойныя словы з улікам асаблівасцей словаўтваральнай структуры слоў адпаведнага перыяду. Асобна пішуцца таксама прыназоўнікі і злучнікі, якія ў старажытных тэкстах, як правіла, не аддзяляліся ад наступнага слова. У прыкладах з арыгіналаў захоўваюцца таксама вялікія літары і знакі прыпынку нават у тых выпадках, калі іх ужыванне не адпавядае сучасным правапісным правілам.

Прыклады з пазнейшых выданняў, якія адносна дакладна перадаюць графіка-арфаграфічную абалонку арыгіналаў, таксама не падлягаюць зменам. Тут захоўваецца прынятая ў выданні сістэма графічных сродкаў, вялікія літары і знакі прыпынку. Аднак вынасныя літары таксама ўносяцца ў радок і абазначаюцца курсівам. Увогуле ж выданняў, дзе дакладна перадаюцца асаблівасці арыгіналаў, у ліку апрацаваных для слоўніка крыніц параўнальна мала.

Значна большую частку крыніц слоўніка ўтвараюць помнікі трэцяй групы — выданні, дзе праведзены шматлікія графічныя і арфаграфічныя спрашчэнні і змены. Тут таксама прытрымлівацца прынятых у гэтых выданнях прынцыпаў, паколькі якога-небудзь іншага падыходу знайсці практычна немагчыма. У цытатах з гэтых крыніц захоўваецца праведзеная ў іх разбіўка тэксту на асобныя словы, сістэма знакаў прыпынку і вялікіх літар, хоць яна можа не адпавядаць сучаснаму ўяўленню аб структуры асобных слоў і сказаў. Гэта выклікае некаторае разыходжанне паміж напісаннем слова ў загаловачнай форме і ў цытатах. Так, у загаловачных формах некаторыя прыслоўі прыводзяцца ў выглядзе *зособна, наборздей, навылетъ, назаютръ, напервей, нерокъ, поготову*, а ў цытатах, як і ў пазнейшых выданнях старажытных тэкстаў, яны часам сустракаюцца ў формах *з особна, на борздей, на вылетъ, на заютръ, на первей, не на рокъ, по готову*.

У цытатах захоўваюцца і відавочныя памылкі, хоць у загаловачных формах яны выпраўлены. Несумненнае няправільнае напісанне суправаджаецца заўвагай складальніка ў дужках [так!]: **Вырочница** [...] тое ж мѣсце зовет oraculum

